# ЛЮБІМЫ СТАЛІН—ЗАЎСЁДЫ З НАМІ



Іосіф Вісарыёнавіч СТАЛІН.

## НЕЗАБЫЎНЫЯ СУСТРЭЧЫ

Светлы вобраз Іосіфа Вісарыёнавіча назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах. Уся наша воля, усе сілы народныя будуць накіраваны на тое, каб выканаць сталінскія запаветы.

Адна за другой у маёй памяці паўстаюць незабыўныя, хвалюючыя сустрэчы.

1936 год. У Крэмлі ідуць гістарычныя паседжанні Надзвычайнага Восьмага Усесаюзнага з'езда Советаў. Уважліва слухаў кожны з нас, дэлегатаў, даклад вялікага правадыра аб Праекце Канстытуцыі СССР. Глыбока ў душу пранікала кожнае слова.

Як член Рэдакцыйнай Камісіі, я ўдзельнічала ў канчатковым рэдагаванні праекта новай Канстытуцыі. Назаўсёды запомніліся выдатныя рысы характару Іосіфа Вісарыёнавіча — яго прастата, яго сціпласць і чуласць.

Назаўсёды запомніліся словы, якія вялікі правадыр совецкага народа сказаў мне, настаўніцы:

— Любіце, беражыце дзяцей — гэта наша шчасце.

Гэтыя сталінскія словы запалі ў маё сэрца, абудзіўшы невычарпальную энергію.

Мы, дэлегаты БССР, перадалі таварышу Сталіну падарункі беларускага народа.

Іосіф Вісарыёнавіч добра зразумеў маё выступленне на роднай беларускай мове.

Незабыўныя хвіліны, незабыўныя дні... Сустрэча з вялікім правадыром на ўсё жыццё натхніла мяне. Я ўступіла ў рады Комуністычнай партыі. Пры цяжкасцях у рабоце і ў час радасці я ўспамінаю Іосіфа Вісарыёнавіча, і працаваць становіцца лягчэй. Сорак тры гады свайго жыцця я аддала выхаванню падрастаючага пакалення. З імем таварыша Сталіна, з думкай аб Сталіне буду працаваць заўсёды.

На жалобным мітынгу ў школе, прысвечаным памяці Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна, мы пакляліся аддаць усе свае сілы вялікай справе будаўніцтва комунізма ў нашай краіне.

**М. ПРУДНІКАВА,**
**заслужаная настаўніца школы БССР.**

## ІМЯ СТАЛІНА — СЦЯГ НАШЫХ ПЕРАМОГ

Ма абавязаны таварышу Сталіну ўсім: яго ўвага, яго бацькоўскія клопаты заўсёды сагравалі нас і натхнялі на новыя подзвігі ў барацьбе і працы.

У гады Вялікай Айчыннай вайны мне, партызану, як і многім сынам Беларусі, прышлося змагацца з ворагам на акупіраванай тэрыторыі. Ніколі я не забуду выступлення таварыша Сталіна 3 ліпеня 1941 года па радыё, калі ён указаў нам, як і ўсяму совецкаму народу, шлях барацьбы за свабоду і незалежнасць Совецкай Радзімы. Па закліку правадыра беларускі народ узняўся на барацьбу з ненавіснымі захопнікамі. З кожным днём рос і шырыўся партызанскі рух. Я прымаў у ім гарачы ўдзел. Усюды ляцелі пад адхон варожыя эшалоны з жывой сілай і тэхнікай.

У тыя цяжкія дні як непахісную веру, як светлую надзею мы неслі з сабой дарагі вобраз Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна. З імем таварыша Сталіна ў сэрцы я асабіста знішчыў дваццаць сем эшалонаў з жывой сілай і тэхнікай ворага, знішчыў трыста пяцьдзесят акупантаў.

Імя Сталіна — сцяг нашых перамог. Мы ганарымся тым, што жывем у эпоху Сталіна, што нам выпала шчасце па яго велічных планах будаваць нашу светлую будучыню — комунізм.

Сталін памёр, але ён будзе вечна жыць у нашых сэрцах. З імем Сталіна, пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі мы горда і смела панясем сцяг комунізма да поўнай перамогі.

**В. ПАРАХНЕВІЧ,**
**Герой Совецкага Саюза.**

**Пятрусь БРОЎКА**

## *Я Сталіна бачу*

**Куды-б я сягоння, мой край, не пайшоў,**
**Як гляну — і сэрца заб'ецца гарача:**
**Усюды над выссю палацаў-дамоў,**
**Над люстрамі вуліц тваіх гарадоў**
**Я Сталіна бачу...**

**Прастор маёй роднай, совецкай зямлі,**
**Які ты бязмежны, што мора — няйначай,**
**Вядуць камбайнеры свае караблі...**
**І скрозь, дзе палеткі красой зацвілі,**
**Я Сталіна бачу...**

**Народ наш магутны, народ малады,**
**Ты вышаў сягоння зямлю перайначыць,**
**Пайшлі праз пустыні каналы вады...**
**І там, дзе ўзнімаюцца сёння сады,**
**Я Сталіна бачу...**

**Да міру вялікая ў сэрцы любоў,**
**Даволі крыві і сірочага плачу!**
**Над морам адважна узнятых галоў,**
**Што міру жадаюць на векі вякоў,**
**Я Сталіна бачу...**

**Нямала ў краіне вялікасных гор,**
**Ды кожны вышэйшую постаць азначыў,**
**Што шчасцю людскому надзейны дазор —**
**У постаці той, што ўзнялася да зор,**
**Я Сталіна бачу!**

# ЛЮБІМЫ СТАЛІН — ЗАЎСЁДЫ З НАМІ

## СВЕТЛЫ ВОБРАЗ

Калі праходзіш па плошчы каля манумента таварыша Сталіна, асветленага яркім вясновым сонцам, не верыш, што правадыра ўжо няма з намі, няма вялікага друга, настаўніка, бацькі...

Сталін не памёр. Пакуль свеціць сонца на зямлі, ён будзе жыць у нашых сэрцах, яго ідэі і задумы будуць жыць у нашых справах. Яго імя натхняе сумленных людзей усяго свету на барацьбу за мір, за светлую будучыню.

Сталін — адно з першых слоў, якія пачынаюць гаварыць дзеці. Гэтае імя самае дарагое для нашай дзетвары і моладзі. Сталін — наш лепшы друг. Цудоўнае, залатое маленства, шчаслівае юнацтва — усё гэта, заваяваўшы ў барацьбе, адстаяўшы ад шматлікіх ворагаў, дала нам Комуністычная партыя і таварыш Сталін.

Пасля цяжкай утраты любімага правадыра яшчэ больш думаеш аб яго вялікіх справах, яшчэ глыбей адчуваеш яго бацькоўскую любоў да народа.

Я ўспамінаю дні дэкады беларускага мастацтва, якая адбывалася ў Маскве ў 1940 годзе.

Для нас, дзяцей, вучняў харэаграфічнага вучылішча, гэта былі самыя шчаслівыя дні.

Надышоў дзень заключнага канцэрта. У гэтым канцэрце мы танцавалі балет «Кураняты». Іосіф Вісарыёнавіч прышоў к канцу нашага нумара. Яму вельмі спадабалася наша выступленне, і ён папрасіў паўтарыць яго. Нельга перадаць словамі нашай радасці, калі мы даведаліся, што будзем выступаць яшчэ раз перад таварышам Сталіным!

Пасля канцэрта мы паехалі на Красную плошчу. Яркім святлом гарэлі рубінавыя крэмлёўскія зоры. Гэта яны асвятлялі наша шчаслівае маленства!

І вось праз дванаццаць год мне, маладой артысцы, прысуджана званне лаурэата Сталінскай прэміі. Якое вялікае шчасце насіць на грудзях медаль з родным воблікам нашага любімага правадыра!

Сталін любіў моладзь, верыў ёй, ускладаў на яе вялікія надзеі.

Мы, моладзь тэатра імя Янкі Купалы, пакляліся, што яшчэ шчыльней згуртуемся вакол Комуністычнай партыі, аддадзім усе свае сілы і здольнасці на барацьбу за справу Леніна — Сталіна.

**Л. ДРАЗДОВА,**
лаурэат Сталінскай прэміі.

## ПАМНОЖЫМ ПРАЦОЎНЫЯ ПОДЗВІГІ

Я ўсім сваім жыццём абавязана дарагому Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну. Сталін назаўсёды з намі, ён бяссмертны. Для кожнага з нас ён быў выразнікам самых найлепшых спадзяванняў, усіх нашых дум аб светлым будучым. Сталін кіраваў будаўніцтвам соцыялізма ў нашай краіне, распрацаваў велічную і ясную праграму пабудовы комунізма.

Мне выпала шчасце быць дэлегатам XIX з'езда партыі, бачыць таварыша Сталіна. Мы з хваляваннем слухалі яго прамову, кожнае яго слова памнажала наша жаданне працаваць яшчэ лепш.

І цяпер наша задача — працаваць не пакладаючы рук для ўмацавання магутнасці любімай Радзімы. Гэта — запавет нам ад Сталіна. Выпускаючы як мага больш цяжкагрузавых беларускіх аўтамабіляў для вялікіх будоўляў комунізма, мы, аўтазаводцы, будзем выконваць свяшчэнны наказ вялікага Сталіна.

Я ўзяла на сябе абавязацельства — памнажаць вытворчыя поспехі, паказваць прыклад комуністычных адносін да працы, быць у першых радах барацьбітоў за ўкараненне ў вытворчасць усяго новага, да чаго заўсёды заклікаў вялікі Сталін. Я абавязуюся і надалей удасканальваць скарасныя метады працы.

Будзем усімі сіламі ўмацоўваць адзінства і згуртаванасць радоў нашай партыі. З намі баявыя саратнікі таварыша Сталіна. З намі — вялікая і непераможная Комуністычная партыя, яе Цэнтральны Камітэт і Савецкі Урад. Пад іх кіраўніцтвам мы давядзем да канца вялікую справу пабудовы комунізма.

**К. КУРЧЫЦКАЯ,**
токар Мінскага аўтазавода.

Анатоль **ВЯЛЮГІН**

## Мужнасць

Навечна з вечнай строгай даты
У спадчыну сынам сваім
Яго сыны, яго салдаты,
Свой гарт і мужнасць аддадзім.

Адчуўшы боль раптоўнай раны,
Мы не пакінулі пасты.
І дзень і ноч грымелі краны,
Маторы, кузні і масты.

Уся зямля — ад ніў і домен —
Каля труны ішла ў цішы,
Бо ён у кожным чэсным доме
Жыве, прапісаны ў душы.

Было ў вачах такое гора
І быў такім жалобным шлях —
Калі-б ішоў між намі вораг,
Яго пазналі-б
па вачах.

Гвардзейскі сцяг, што не схілялі
У моры лютага агню,
У горы, скалануўшым далі,
Схілілі ціха ўпершыню.

І нам здалося: у паходзе,
Здзівіўшы подзвігамі свет,
Ля Маўзалея палкаводзец
Прылёг у стоме на лафет.

І думу думае аб міры.
Дарогі ўсе яму відны.
Застылі побач камандзіры,
Яго салдаты і сыны.

Часціну найцяжкое працы,
Што ён рабіў,
У гэты час
Са строгай клятвай: не стамляцца! —
Узяў на плечы кожны з нас.

Тугу расстання і трывогу
З сабой не бралі мы ў дарогу, —

На ціхі шар зямны з тугою
Паклаўшы веснія вянкі,
Імя забралі дарагое
З сабой,
як зброю,
у вякі.

Пілip ПЕСТРАК

## Бяссмерце

Як словы адшукаць, каб выказаць душой
Наш смутак па табе, Вялікі Правадыр!!.
Бо кожны за табой так радасна ішоў
І думаў, што цябе не закрануць гады,

Што будзеш вечна ты, народаў бацька, друг,
Ззяць мудрасцю-зарою пуцяводнай,
Што капітанскі руль не выпусціш ты з рук,
Што будзеш жыць для радасці народнай.

І раптам вестка: Сталіна нястала,
Саратніка і вучня Ільіча...
Жыццё Правадыра смерць абарвала...
У кожнага з нас — слёзы на вачах.

Плывуць жалобныя вянкі... Ідуць
Па ціхіх вуліцах людзей мільёны.
Яны сваю любоў яму нясуць,
І кожны ў думках верай акрылёны,

Што засталося сталінскае племя,
Нязломнае, як камень, як граніт,
Што ў гэтай сталінскай, магутнай змене
Яго імя вялікае звініць.

Плячо к плячу! Шчыльней свае рады!
Каб змоўклі ворагі, каб задрыжэлі далі,
Каб ведалі, — Вялікі Правадыр
Бяссмертны у вяках — наш родны бацька Сталін!

# ЛЮБІМЫ СТАЛІН — ЗАЎСЁДЫ З НАМІ

Пімен ПАНЧАНКА

## На праспекце імя Сталіна

Таня, ты ўжо даволі сталая...
Чуеш — зычна гудкі гудуць!
Па праспекце таварыша Сталіна
Першы раз я цябе правяду.

Пахне сонцам, вапнай, вясной —
Прыбіраецца горад мой,
На будоўлі пяюць дзяўчаты...
Паглядзі — тут праспекта пачатак.

Вось кіно для дзяцей, а там
Сто рабочых будуюць паштамт,
Будзеш некалі слаць мне і маме
Кожны тыдзень па тэлеграме.

Гэта — школа. Тут будзеш вучыцца.
Там бальніца — будзеш лячыцца.
— А зусім не хварэць мне можна! —
Запытала дачка асцярожна.

Вунь дарожка бяжыць між клёнаў
Да зялёнага стадыёна,
Будзеш бегаць там, кідаць мячы —
Не спатрэбяцца і ўрачы.

Расказаць ёй хацеў аб будучым,
А дачка бягом да вітрын:
Просяць кубікі, лялькі, дудачкі —
«Забяры!..» А колькі машын!..

— Тата, маеш з сабою грошы!.. —
І, як вопытны дыпламат,
Абяцае заўжды быць харошай,
Маму слухаць і есці шмат.

Далей крочым утрох — з намі... мішка.
Бачыш — тут прадаюцца кніжкі,
Падрасцеш — і палюбіш іх шчыра.
— Я ўжо вывучыла «Майдадыра»!!!

Тут пярэйдзем — баяцца сорам!.. —
Не наедуць на нас шафёры:
Светафораў зялёныя вочы
За табой клапатліва сочаць.

Плошча...
Скверы, палацы наўкол.
А у цэнтры — азораны сонцам
Правадыр, дарагі нам бясконца
І бяссмертны на векі вякоў.

Родны воблік малая пазнала
І любімае імя назвала,
Прашаптала:
— Хачу, каб ён жыў!..

Ён жыве.
Для цябе ён пакінуў
Шчасце ўсё і багацце краіны,
Вырастай і ўсё зберажы.

Глыбіню непамернага гора
Ты адчуеш пазней.
Гэта мора
І любві, і жалобы людской...
Пралілася у гэтае мора
Кропля чыстай слязінкі тваёй.

І далей мы пайшлі ў задуменні
Па праспекце, залітым праменнем.
І пытае дачка мяне:
— Дзе
Ён канчаецца!
Ён ідзе
Між палёў залатых, паміж хвой
Аж да самай Масквы дарагой.

Гэта — свет твой. Любуйся. Глядзі.
Толькі гэтым праспектам ідзі,
З гэтай светлай дарогі не збоч,
Толькі ўперад са Сталіным крочі



Манумент І. В. Сталіна на Цэнтральнай плошчы ў Мінску.

Міхаіл БУБЕННОЎ

# ВЯЛІКІ ПАЛКАВОДЗЕЦ

**Урывак з другой кнігі рамана «Белая бяроза»**

Мал. С. Раманава.

Надыходзіў час расплаты з ворагам.

У гэтыя дні Сталін шмат думаў аб контрнаступленні нашых войск. Гэтае добра падрыхтаванае і арганізаванае контрнаступленне, на думку Сталіна, павінна было з'явіцца вельмі своеасаблівым відам наступлення, у выніку якога нашым войскам трэба было не толькі разграміць ворага пад Масквой, але і нанесці яму магутныя ўдары на поўначы і поўдні. Здзяйсненне намечанага плана контрнаступлення, такім чынам, магло стаць рашаючай ваеннай падзеяй першага года Вялікай Айчыннай вайны. У бітве пад Масквой Савецкая Армія павінна была ўзняць сцяг нашай перамогі, каб пранесці яго потым да Берліна...

Думаючы аб контрнаступленні, пільна выбіраючы момант, каб яго пачаць, Сталін у гэтыя дні асабіста знаёміўся з баявой абстаноўкай на розных участках падмаскоўнага фронта. Цяпер Сталіну асабліва хацелася быць як мага бліжэй да Дзеючай арміі.

...У вялікім сяле на Валакаламскай шашы, па дарозе на пярэдні край нашай абароны, Сталін убачыў над уваходам у каменны будынак невялікі белы сцяжок з яркім чырвоным крыжам у цэнтры. Гэта быў палявы армейскі шпіталь. Сталін нечакана загадаў спыніць машыну. Праз некалькі хвілін ён ужо быў у палаце, дзе размяшчаліся параненыя ў апошніх баях.

Іх было чатырох. Усе яны ляжалі на аднолькавых белых бальнічных ложках, пастаўленых у адзін рад, з прамежкамі для праходу, узгалоўямі да глухой сцяны. На супрацьлеглай сцяне было два акны, якія выходзілі на поўдзень, — не ўзнімаючы галоў з падушак, параненыя бачылі, як нізка над дамамі па другі бок шашы праходзіла чырванаватае сонца.

Раптоўнае з'яўленне ў палаце Вярхоўнага Галоўнакамандуючага ў суправаджэнні генералаў, начальніка шпіталя і дзяжурнага ўрача незвычайна ўсхвалявала параненых. Усе яны адначасова зрабілі парывістыя рухі пад суконнымі коўдрамі, мімвольна падпарадкоўваючыся думцы ўстаць, сустрэць Сталіна павайсковаму, але толькі адзін з іх, з забінтаванымі пад кашуляю грудзьмі і шыяй, з цяжкасцю сеў на ложку... Астатнія лішні раз адчулі сваё бяссілле. Цяпер гэта асабліва горка засмуціла іх. Яны ўмелі моўчкі пераносіць любы фізічны боль, але не маглі схаваць таго душэўнага болю, які адчулі цяпер, калі нехапіла сілы сустрэць Сталіна стоячы: адзін уздыхнуў з пакутлівым стогнам, другі ў роспачы паварушыў галавою на падушцы, трэці з балючай прыкрасцю сціснуў зубы...

Сталін заўважыў, што параненыя ўсхваляваны.

— Добры дзень, таварышы, добры дзень! — сказаў ён некалькі прыўзнятым тонам і спыніўся ля крайняга ад дзвярэй ложка, на якім сядзеў паранены са здзіўленым і шчаслівым выразам на маладым скуластым твары. — Але ў мяне да вас, таварышы, адна вялікая просьба: вы павінны ляжаць спакойна... — сказаў ён пасля таго, як параненыя адказалі на яго прывітанне. — Так, так, вам трэба ляжаць. А мы можам і павінны пастаяць перад вамі...

У быстрых шэрых вачах параненага, які сядзеў на ложку, мільгануў выраз разгубленасці.

— Дазвольце мне, таварыш Сталін, пасядзець, — сказаў ён, хапаючыся худымі пальцамі за край ложка. — Дальбог, апрыкрала ляжаць. Здаецца, ужо чацверты дзень...

— Добра, сядзіце, — згадзіўся Сталін. — У вас, я бачу, нядаўна астрыжана галава... Вы камандзір?

— Так точна! Гвардыі лейтэнант...

— Прозвішча?

— Мурашоў.

Сталін зірнуў на дзяжурнага ўрача, і той таропка далажыў, што ў Мурашова некалькі асколачных раненняў у мяккія ткані; два асколкі пазаўчора выняты, а чатыры пакінуты да наступнай аперацыі.

— Ну і няхай тырчаць! — раптоўна павесялеўшы, сказаў на гэта Мурашоў, і Сталін адразу зразумеў, што перад ім бадзёры і, відавочна, у звычайным жыцці вясёлы малады чалавек. — Мацнейшы буду, толькі і ўсяго! Тады мяне хіба толькі бронебойнай...



— Вы даўно на фронце, таварыш Мурашоў?

— З першага дня вайны, таварыш Сталін!

— Упершыню выбылі са строю?

— Так точна!

— Скажыце, таварыш Мурашоў, — запытаў Сталін, беручыся рукой за спінку ложка, — які перыяд вайны быў для вас найбольш цяжкім?

— Першы месяц, таварыш Сталін!

— Зразумела. А цяпер як?

Мурашоў уздыхнуў, але адказаў з усмешкай:

— Ваяваць, вядома, і цяпер нялёгка, я скажу гэта шчыра. У немцаў усё яшчэ вялікая перавага ў тэхніцы. Ды і цяжка, што немцы так блізка ад Масквы. І ўсё-ж ваяваць цяпер куды лягчэй, чым нават месяц таму назад...

— А чаму-ж усё-такі лягчэй? — спытаў Сталін.

— Па-першае, таварыш Сталін, мы цяпер не тыя... — адказаў Мурашоў. — Пабачылі нашы воіны гэтых самых фашыстаў зблізку, на фактах даведаліся, хто яны такія, і добра, вельмі добра зразумелі, што пагражае нашай краіне... І ўсе злоснымі сталі, бязлітаснымі ў баі. Ад гэтага і сіл нібы пабольшала. І ўсе зразумелі, што сапраўды, як вы казалі, не такі страшны чорт, як яго малююць... Цяпер усе ў нас ведаюць, што размовы аб непераможнасці нямецкай арміі — дурная казка, адна балбатня. Бегаюць цяпер немцы ад нас, ды як яшчэ бегаюць! Вось ад гэтага і лягчэй стала...

— А па-другое? — спытаў Сталін.

— А па-другое, цяпер і немцы не тыя... — прадаўжаў Мурашоў. — Карацей кажучы, зразумелі, што разбойнічаць — небяспечная справа. Мне даводзілася, таварыш Сталін, гутарыць з палоннымі. Яшчэ месяц таму назад яны верылі, што хутка возьмуць Маскву, а цяпер яны ўжо і не думаюць аб ёй...

— Нават і не думаюць?

— Так точна!

Слухаючы Мурашова, Сталін некалькі разоў пазіраў на астатніх параненых, быццам стараючыся зразумець, як яны адносяцца да разважанняў лейтэнанта.

— Ды вось яны могуць пацвердзіць гэта, — сказаў Мурашоў, паварочваючыся да сяброў па палаце. — Правільна я кажу, хлопцы?

На суседняй койцы ляжаў вельмі бледны паранены з ампутыраванай правай рукой. Ён захваляваўся, калі да яго падышоў Сталін, але нават і пры гэтым на яго шырокім, добрым твары не выступіла ніводнай крывінкі. Толькі пад коўдрай, на грудзях, разы са тры падрад узрыганула адзіная цяпер у яго рука.

Ён пацвердзіў ціхім голасам:

— Гэта правільна, здорава аслабеў немец...

На наступнай койцы нерухома ляжаў паранены з забінтаванай галавой, — адкрытымі

выя дамы: такіх няма ў яго пасёлку на Любаншчыне.

— А хто робіць такія вялікія дамы? — пытаецца ён.

— Інжынеры, сынок.

Радамір ведаў, што інжынеры таксама вынаходзяць машыны. Яму расказаў аб гэтым стары каваль Гарасім. Ва ўяўленні Радаміра інжынеры паўставалі нейкімі казачнымі волатамі, якія ўмеюць рабіць усё на свеце.

Хутка бацька заўважыў, што Радамір змарыўся. Полы паліто ў хлопца адвіслі да таго, што амаль цягнуліся па бруку.

— А ну, пакажы, што гэта ў цябе ў кішэнях? — запытаў бацька.

Хлопец высыпаў кілограмы тры іржавых шрубаў, балтоў і іншых жалезак, знойдзеных каля склада.

— Мы будзем трактар будаваць, — заступаўся ён за сваё багацце. Але бацька рашуча адмовіўся везці дадому гэты скарб.

У Радаміра, як і ў мільёнаў яго равеснікаў, было звычайнае школьнае маленства: вучыў урокі, хадзіў на піонерскія зборы, захапляўся прыгодніцкімі і навукова-фантастычнымі кніжкамі, прасіўся пад'ехаць на трактары і лічыў сябе памочнікам старога каваля Гарасіма.

Аднойчы бацька ўзяў яго на паляванне. Лодка павольна плыла па Арэсе, шчодра аплеценай зараснікамі лазняку і алешніку. І раптам спаткалі нечаканае: на пантонах стаялі домікі, а на беразе, выцягнуўшы жалезную шыю, узвышаўся экскаватар.

— Што гэта? — запытаў Радамір.

— Гэта машыны, сынок. Яны робяць рэчку шырокай, глыбокай. Каб асушыла яна балота і там, куды мы едзем качак страляць, закаласавала-б жыта. Ды якое жыта!

Неўзабаве бацька пераехаў на работу ў другі куток Палесся, на Брагіншчыну. Радамір убачыў, якая збажына можа расці на некалі непралазных багнах. Гэта быў час, калі калгаснае сялянства пайшло ў наступленне на балоты...

Радаміру было дванаццаць гадоў, калі пачалася вайна. Бацька пайшоў на фронт. Юнак упершыню ўбачыў, што існуе на зямлі другі, цёмны свет са звярынымі законамі. Фашысты забівалі людзей, палілі вёскі, руйнавалі здабыткі чалавечай працы...

Калі Савецкая Армія вызваліла яго раён ад захопнікаў, Радамір зноў пайшоў у школу. Гэта ўжо быў сур'ёзны, удумлівы юнак. Ён узяўся старанна за вучобу. Яго абралі сакратаром школьнай камсамольскай арганізацыі.

І неяк нечакана вырашылася пытанне: кім быць, які шлях выбраць у жыцці? Калі Радамір быў яшчэ дзевяцікласнікам, у калгасе імя Тэльмана адбылася незабыўная падзея—пабудавалі сваю электрастанцыю. Радамір бачыў, колькі радасці прынесла гэта людзям. Ідучы дамоў берагам ціхай Брагінкі, Радамір у гэты дзень вырашыў, што ён абавязкова стане гідратэхнікам. І з гэтага часу ён асабліва настойліва пачаў займацца фізікай, алгебрай, геаметрыяй.

Самае галоўнае пачалося на гідратэхнічным факультэце політэхнічнага інстытута, куды ў 1948 годзе паступіў Радамір Лукошка.

Якаў Цімафеевіч Кавалёў, загадчык кафедры гідраўлікі, з першай лекцыі заваяваў сімпатыі і Радаміра і яго новых таварышаў. Яго паважалі за гарачую любоў да сваёй справы, за ўменне растлумачыць самае складанае пытанне так, што яно адразу рабілася зразумелым і простым.

— Гідратэхнік — гэта спецыяльнасць, якая патрабуе самых рознабаковых ведаў, — гаварыў Якаў Цімафеевіч. — Гідратэхнік павінен быць і электрыкам і інжынерам-будаўніком і тапографам. Вы павінны навучыцца будаваць усё, пачынаючы ад дрэнажнай трубы і канчаючы гідраэлектрастанцыяй.

Працаваць прыходзілася шмат. Трэба было вывучыць дзесяткі прыбораў, машын, механізмаў, прыстасаванняў. Трэба было дасканала ведаць прыроду рэк, воднай стыхіі наогул, разбірацца ў грунтах, у будаўнічых матэрыялах, пачынаючы ад дрэва і канчаючы жалезабетонам. Трэба было, нарэшце, дасканала авалодаць электратэхнікай, механікай, фізікай і многімі іншымі неабходнымі навукамі. А самае галоўнае, што патрабавалася ад будучага інжынера-гідратэхніка, — умець прымяніць на практыцы свае веды, умець будаваць, падпарадкоўваць волі чалавека водную стыхію.

Прафесар Вінакураў, які загадвае ў інстытуце кафедрай гідратэхнічных збудаванняў, правяраючы студэнцкія праекты, іншы раз гаварыў:

— Вы калі будуеце, дык і пра рыбу не забывайце. А то паглушыце яе дынамітам, і рыбаводы на вас крыўду мець будуць.

У гідратэхнічным будаўніцтве трэба ўлічваць самыя разнастайныя фактары і іх узаемадзеянне. Напрыклад, для таго, каб правільна вылічыць магутнасць электрастанцыі, недастаткова ведаць толькі водныя рэсурсы ракі, трэба яшчэ ўлічыць сярэднюю норму ападкаў, матэаралагічныя амплітуды гэтай мясцовасці, улічыць паводку і засушлівы год, ведаць сілу вятроў, характар рачного дна, профіль берагоў і інш.

Прафесар Вінакураў шмат чаго мог расказаць сваім выхаванцам.

Калісьці ён, сённяшні член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР, быў прарабам па будаўніцтву вадзяных млыноў. Пасля вучыўся, будаваў першыя савецкія электрастанцыі па ленінскаму плану ГОЭЛРО. Радаміру, калі ён слухаў лекцыі Вінакурава, іншы раз здавалася, што прафесар, напэўна, ведае на смак ваду ўсіх рэк Саюза.

Радамір быў на другім курсе, калі адбылася падзея, якая ўскалыхнула ўвесь інстытут. У сувязі з сямідзесяцігоддзем таварыша Сталіна інстытуту было прысвоена імя вялікага правадыра.

Якаў Цімафеевіч Кавалёў, старэйшы выкладчык інстытута і сакратар факультэцкай партыйнай арганізацыі, прышоў на лекцыю ўсхваляваны, радасны.

— Для мяне сённяшні дзень — самы светлы ў жыцці, таварышы,— сказаў ён. — Імя, якое носіць наш інстытут, — гэта найвялікшая ўзнагарода і чэсць для кожнага з нас. Імя правадыра, якое будзе запісана ў вашых дыпломах, няхай асвятляе ўсё ваша жыццё...

Вечарам Радамір сказаў свайму сябру Анатолю Маглышу:

— Ведаеш, Анатоль, хочацца зрабіць нешта асаблівае, такое, каб аддзякаваць Радзіме, таварышу Сталіну за ўсё!

... Студэнцкае жыццё было бурлівае, напружанае. Прыходзілася іншы раз да трэціх пеўняў («пеўні» вылічваліся па першаму раннішняму трамваю) сядзець над чарцяжамі. Былі і трывогі, і няўпэўненасць. Але затое пасля паспяхова вытрыманага экзамена або заліку Радамір адчуваў прыліў новых сіл.

На вачах Радаміра нараджаўся Мінск, уставаў з руін інстытут, які зараз, шырока раскінуўшы магутныя карпусы з белымі калонамі, красуецца на праспекце імя Сталіна. У інстытуце — прасторныя аудыторыі, дзесяткі лабараторый з навейшым абсталяваннем, кабінеты, бібліятэка, утульныя інтэрнаты. Радамір любіць займацца ў лабараторыі гідратэхнічных збудаванняў. Тут ёсць усё: дынамамашыны, электраматоры, мініятурныя макеты буйнейшых савецкіх гідраэлектрастанцый, плацін, турбін. Ёсць нават свая мікрагэс. Можна нагаядна азнаёміцца з усімі дасягненнямі айчыннай навукі ў галіне гідратэхнічнага будаўніцтва.

Радамір яшчэ з першага курса пасябраваў з многімі студэнтамі. Жартаўнік Аркадзь Цяцёркін заўсёды кпіў з яго «залішняга акадэмізма», але, як і Аляксандр Шчакаціхін, лічыў Радаміра сур'ёзным і добрым хлопцам. Урэшце ўсе яны — і Аркадзь з Аляксандрам, і Анатоль Маглыш, і Аркадзь Іванейчык, і Ліля Маляўка былі добрымі сябрамі. Радаміра паважалі за прынцыповасць, за ўменне казаць праўду ў вочы. Яго не раз выбіралі на кіруючую камсамольскую работу. Радамір быў членам факультэцкага камсамольскага бюро, сакратаром камсамольскай арганізацыі факультэта. У інстытуце яго прынялі ў партыю.

Пазалетась Радаміра разам з Аркадзем Цяцёркіным і Аляксандрам Шчакаціхіным паслалі на практыку на Кегумскую ГЭС, што на Даугаве. Электрастанцыю яшчэ пры буржуазнай Латвіі праектавалі шведскія інжынеры. Фашысты ў час адступлення разбурылі яе. За аднаўленне ўзяліся савецкія інжынеры. І тут выявілася, што замежныя «аўтарытэты» дапусцілі буйныя хібы ў праектаванні. Гэта, перш за ўсё, датычылася так званага гашэння энергіі. У выпадку паводкі электрастанцыі пагражала спыненне і вялікія капітальныя затраты.



Галоўны корпус Беларускага політэхнічнага інстытута імя І. В. Сталіна.

Прыехаўшы з практыкі, Радамір яшчэ з большым запалам узяўся за вучобу. Гадзінамі прастойваў ён каля такарнага станка, абточваючы дэталі, любіў дзяжурыць на электрастанцыі. Вучыўся быць тапографам, геадэзістам.

У інстытуце часта наладжваліся даклады, дыспуты па розных навуковых і тэхнічных пытаннях. Радамір актыўна ў іх удзельнічаў. Ён сам узяўся за навуковую работу. Яго зацікавіла пытанне аб узаемазалежнасці хвалі і іншых фактараў: характару дна, сілы ветру і г. д. Ён клапатліва працаваў, падлічваў, правяраў, рабіў доследы. Затое, як многа дало гэта яму ў сэнсе набыцця самастойнасці ў вырашэнні складаных тэхнічных пытанняў!

...І вось за плячыма пятнаццаць год вучобы. Хутка абарона праекта, а там — на работу. Аркадзь Цяцёркін летуценна разважае:

— Паехаць-бы ў Кахоўку або, скажам, на Сталінградскі гідравузел...

Сябры ўспамінаюць сваіх старэйшых таварышаў, што год-два назад скончылі інстытут і працуюць на будоўлях комунізма. Гідратэхнік Уладзімір Шаракоў будаваў Волга-Дон, энергетык Барыс Савін працуе ў Кахоўцы, а Барысенка—на Цымлянскай ГЭС...

Радамір, як і яго сябры, спачатку марыў паехаць на вялікія будоўлі комунізма. Але адзін выпадак павярнуў яго думкі ў іншым напрамку. Летась ён ездзіў на канікулы дамоў, на Палессе. Яшчэ ў дарозе пачуў, што на рачулцы Віці калгас будуе гідраэлектрастанцыю. Пабыўшы некалькі дзён дома, ён не вытрымаў і пайшоў паглядзець на будоўлю.

— Канешне, нашу электрастанцыю не параўнаеш са Сталінградскай, — разважалі там цесляры.— Але карысці з яе многа будзе. А колькі такіх рэк, як наша Віць, на Палессі! Пабудуй на кожнай электрастанцыю ды складзі ўсе разам, глядзіш, і новая будоўля комунізма атрымаецца.

Пасля, калі Радамір чытаў дырэктывы XIX з'езда партыі, дзе гаварылася і аб асушэнні Палескай нізіны, ён яшчэ раз успомніў размову цесляроў на Віці. Так нарадзілася мара пабудаваць гідраэлектрастанцыю на Палессі. На тым Палессі, якое яшчэ поўвека назад было самым глухім і цёмным кутком Беларусі, пра якое вядомы даследчык Кіркор семдзесят год таму назад пісаў: «Сярод балот, на беразе Брагінкі і невялікага возера—мястэчка Брагін. Нарэшце, вялікая казённая вёска Васілевічы ляжыць на рубяжы непраходных балот... Гэта апошнія жылыя пункты. Далей цягнецца царства туманаў, лясоў і балот».

Радамір Лукошка паедзе на тое Палессе, што воляй комуністычнай партыі і совецкага народа пераўтвараецца ў квітнеючы куток роднай зямлі.

**Андрэй МАЛЫШКА**

# *Сталін з намі*

**Яшчэ хвіліна. Яшчэ гадзіна,**
**А сэрца балюча шчыміць з дасвецця.**
**Нас чалавек наймудрэйшы пакінуў,**
**Памёр чалавек найвялікшы ў свеце.**

**За днём,**
**за даллю,**
**за чорнаю датаю**
**Бачу народаў сумныя вочы.**
**Зямля ад болю стала гарбатаю**
**Гэтай цяжкой сакавіцкаю ноччу.**

**Зямля, якую сваімі рукамі**
**Ён доўга песціў, бярог ад напасці,**
**Дыханнем сваім саграваў гадамі,**
**Біццём свайго сэрца значыў ёй шчасце.**

**Заплюшчыў ён вочы свае навекі,**
**Што заглядалі ў глыбіні стагоддзяў,**
**Што асвятлялі шляхі чалавеку.**
**Але іх пагляд — неўміручы ў народзе.**

**Скляліся рукі яго нерухома**
**Пад сцягамі, пад якімі мы крочылі,**
**Рукі, якія не ведалі стомы,**
**Шлях пракладалі і горы варочалі.**

**Ранак пасівеў. Зірнула журботна**
**Сонейка, ўзняўшыся па-над зямлёю.**
**Орле наш вешчы!**
**Бацька наш родны!**
**Мы ля цябе. Мы навекі з табою.**

**На варце сталі горы, даліны,**
**Комуністычныя алыя зоры.**
**Дрэва ад смутку згінае галіны,**
**Сэрца трапеча пад цяжарам гора.**

**Кроў б'е у скроні гарачынёй,**
**Чорным жалезам у грудзі бразгае.**
**Сонца маё! Сэрца маё!**
**Туга мая невыказная...**

**Ды аніколі народнай адвагі**
**Не пахіснуць у часіну гора...**
**Леніна сцягі,**
**Сталіна сцягі**
**Вышэй угору! Высока ўгору!**

**Хай у вышынях лунаюць над хмарамі,**
**Хай палымнеюць па-над шляхамі.**
**Мудрасцю,**
**думамі,**
**сэрцам,**
**і марамі**
**Сталін з намі! Настаўнік з намі!**

Пераклад з украінскай мовы
М. Аўрамчыка.



**...У рэспубліканскай праектна-вынаходніцкай установе «Белгіправодгас», дзе сканцэнтраваны работы па генеральнаму праекту асушэння Палескай нізіны. Галоўны інжынер праекта Д. І. Кузняцоў знаёміць Радаміра Лукошку і яго сяброў з матэрыяламі апошніх вынаходніцтваў.**

На фота (злева направа): **Р. Лукошка, А. Маглыш, А. Цяцёркін, Д. І. Кузняцоў і А. Шчакаціхін.**

Пімен ПАНЧАНКА

# Ленінскія горы

Пасля дарог паходных,
Пасля усіх турбот
Зайшоў у цэх я родны
Праз дзесяць доўгіх год.

Па цэху плыў ад дошчак
Пах свежае смалы.
Ляцеў вясёлы дожджык
З-пад круглае пілы.

Цудоўнае спатканне!
Аж сверб адчуў рукі...
За нашымі станкамі —
Другія юнакі.

Стары, знаёмы майстар
З усмешкаю сказаў:
«Вунь, бачыш, — той, чубасты,
Цябе, брат, абагнаў».

І стала сумна крышку:
Каля майго станка
Плячыстага, увішнага
Я ўбачыў юнака.

Завод яму даверыў
І ўсім яго сябрам
Заказ пачэсны — дзверы,
Так, як калісьці нам.

Рамесленік учора,
Сягоння — станкавы.
Ён выканаў — не сорам! —
Заказ самой Масквы.

Не знаў у працы зморы,
Адно ён добра знаў:
На Ленінскія горы
Іх адвязе састаў.

А вечаровым часам
Ля завадскіх варот
Мы з ім стаялі разам,
Глядзелі на усход.

Ды задуменным нейкім
Мой друг малодшы стаў...
Па серабрыстых рэйках
Прагрукатаў састаў.

І зноў на нас павеяла
Знаёмаю сасной,
Сталярным моцным клеем,
Дарогай і вясной.

А друг мой ціха кажа:
«Закончыць-бы хутчэй...
Драбніца — дзверы нашы,
А марыць весялей

Пра Ленінскія горы,
Што спаць мне не даюць.
Пра Ленінскія горы,
Усе хлопцы ў нас пяюць.

Высока тыя горы,
Ды вышэй запавет,
Што Ленін даў,
Што Сталін даў, —
Няма ў нас іншых мэт».

Я хлопцу шчыра веру:
Ён здзейсніць запавет —
Свае адчыніць дзверы
Ва універсітэт.



Уладзімір Ільіч Ленін. Фота П. Оцупа.

Кастусь КІРЭЕНКА

# Вялікія сябры

Ад першай кніжкі на дзіцячым сходзе,
Што мы чыталі ў сотні галасоў,
Два дружбакі прыйшлі да нас: Валодзя —
З Сімбірска і з каўказскіх гор — Сосо.

Тады 'шчэ не зусім мы разумелі,
Хто перад намі, але ўсёй сям'ёй
Мы быць такімі, як яны, хацелі,
Якімі іх пазналі з кніжкі той —

Дапытлівымі, шчырымі заўсёды,
Каб радаваліся, гледзячы, бацькі...
І вось мінулі, прашумелі годы,
Мы ў школе, піонеры, юнакі.

За ласку як аддзякаваць Радзіме!..
І зноў з вялікім прыкладам між нас
Былі сябры: Ульянаў Уладзімір
І Коба — як тады, ў маленства час.

Яны — усім жыццём сваім юнацкім,
Вялікай славай пройдзеных дарог
Вучылі нас, як за жыццё змагацца,
Жыць і мацнець пад сонцам перамог,

Вучылі берагчы сваю Айчыну,
Усё, што на шляхах любімых ёсць...
І з гэтым вось найлепшым успамінам
Мы ўсе ў сваю ўступалі маладосць.

Дзе-б ні былі мы, што-б мы ні рабілі,
Заўсёды сэрцаў слухалі наказ:
Жыць і змагацца, як яны вучылі —
Як Ленін з Сталіным вучылі нас.

І ўсё найлепшае, што ў сэрцах нашых
Расло пад мудрым поглядам сяброў, —
Любоў і вера, мужнасць і бясстрашша, —
Асветлена жыццём правадыроў.

Таму нам стала славай наша праца
Для радасці і шчасця на зямлі,
Таму змаглі на подзвігі мы ўзняцца
І ў бітвах за жыццё перамаглі.

Пранеслі непахісна сцяг агністы
І ўперад з перамогаю ідзём
Вялікай справы творцы — комуністы,
Бліжэй да комунізма з кожным днём.

І так як Ленін з Сталіным аддана
Служылі роднай партыі заўжды, —
Так мы ёй аддамо сям'ёй з'еднанай
Любоў і вернасць сэрцаў маладых!



# ВЯСНОВЫМІ ДНЯМІ

**Іван ШАМЯКІН**

**Апавяданне**

Мал. А. Волкава.

Яўмен спяваў.

Рэдка рабіў ён гэта, седзячы за рулём трактара. Ды і не вельмі захочацца спяваць, калі папрацуеш ноч, пераверпеш гектараў дзесяць дзірвана і пад раніцу ў цябе ные ад стомы ўсё цела і самі зліпаюцца павекі. Толькі і ведаеш, што пагладаць — ці хутка прыдзе напарнік?

Але ў тую раніцу Яўмен не адчуваў стомы і не надта пазіраў у бок вёскі, нават забыўся, што Валянціну даўно пара заняць яго месца за рулём, а яму да гэтага часу пара ўжо было памыцца, паснедаць і ляжаць пад паветкай, у цяньку. Сапраўды, ужо мінула гадзіны дзве, як скончылася яго змена, а Валянцін усё не з'яўляўся. Яўмен, праўда, мог спыніць трактар і пайсці ў вёску, разбудзіць сябра, які, напэўна, заспаў. Але і трактар яму ў тую раніцу не хацелася спыняць, шкада было дарэмна траціць час. Ён глядзеў на ўзаранае поле і радаваўся.

«Нормы дзве даў. Бадай што яшчэ ніколі ў начную змену не даваў столькі. Тыдзень так папрацую — на першае месца ў брыгадзе выйдзем».

Яўмен любіў свежаўзаранае поле своеасаблівай любоўю трактарыста, які ганарыцца сваёй прафесіяй. Ляжыць вось гэткі вялізны чорны квадрат і нагадвае нейкае казачнае возера, узбаразненае маленькімі хвалямі, якія, здаецца, даганяюць адна адну і ніяк не могуць дагнаць. Дзе-ні-дзе зрэдку віднеюцца — нібы жоўтая пена на гэтых чорных хвалях — плямы пяску. І зусім рэдка з-пад пластоў раллі выглядаюць каліўцы травы. Яўмен не любіць гэтай жаўцізны і зеляніны на раллі, бо гэта амаль што агрэхі, яны не робяць гонару лепшаму трактарысту.

Узараны ўчастак заўсёды здаецца большым, чым быў тады, калі зелянеў травой. Можа таму і прыемна глядзець на яго...

Ужо высока паднялося сонца і моцна прыпякае то ў спіну, то ў грудзі і твар. Высахла раса, і за трактарам уздымаецца слуп пылу. Калгасніцы даўно выйшлі ў поле палоць лён і пшаніцу. Стракатыя хусцінкі і сукенкі відненіся там, дзе за чорным папарам рассцілалася зялёная бяскрайнасць пасеваў. Але Яўмен рэдка скіроўваў позірк у той бок. Значна часцей пазіраў ён на белыя саманныя будынкі кароўнікаў і на невялікую хацінку каля іх, пакрытую шыферам. Там — яна, Надзя. Што яна робіць цяпер? Відаць, мые бідоны. Добра было-б, каб Валянцін не прышоў да таго часу, калі пагоняць да рэчкі на стойла статак і даяркі не выйдуць даіць кароў. Тады Яўмен проста ад трактара пайшоў-бы да рэчкі мыцца і там, напэўна, спаткаў-бы яе...

Пыл гусцеў, нават скрыпеў на зубах. Але Яўмен спяваў. Сам-на-сам з трактарам ён даваў волю сваім пачуццям. Голас яго тануў у роўным гудзенні матора.

Усяго адзін тыдзень працуюць яны з Валянцінам на полі калгаса «Ясны дзень». Прыехалі сюды з Макарэвіч пасля таго, як МТС атрымала новыя трактары і была зроблена, як яны называлі, «пэратруска» брыгад.

Адзін тыдзень. Але які гэта быў тыдзень у жыцці Яўмена! Да яго прышло першае і сапраўднае каханне. Яны пазнаёміліся з Надзяй у першы дзень у кіно і пасля штовечар сустракаліся: хадзілі па вёсцы або да раніцы праседжвалі пад старымі ліпамі каля калгаснага саду. Цяпер ён успамінаў гэтыя сустрэчы, і ў яго так светла, так хораша рабілася на сэрцы, што хацелася працаваць і працаваць, без адпачынку, без змены, каб хутчэй праляцеў гэты тыдзень, калі ён мусіць працаваць начамі.

Яўмену захацелася піць. Ён спыніў трактар ля дарогі і пайшоў да месца запраўкі — да старой бярозы каля якой стаялі бочкі з вадой і гаручым.

Падышоў і спыніўся, здзіўлены. Пад бярозай, на пакамечанай траве, шырока раскінуўшы рукі, смачна спаў Валянцін. Пад галавой у яго ляжаў выходны пінжачок, пад бочкай з вадой стаялі новыя бацінкі.

Яўмен спачатку лагодна, з ласкавасцю старэйшага, хоць па гадах быў маладзейшы, паківаў галавой. Але праз момант невядома адкуль з'явілася злосць: «Лайдак! Гультай! Я працую за яго не снедаўшы, а ён...»

Яўмен моцна штурхнуў сябра:

— Гэй, ты, соня! Што гэта такое?..

Валянцін лыпнуў вачыма, расплюшчыў іх, хутка сеў і, пацягнуўшыся, пазяхнуўшы, весела засмяяўся. Глянуў на сонца.

— Хэ! Хіба ты яшчэ працуеш?

— А ты думаў — як ты?!.

— А што я? Я знарок прышоў сюды, каб ты мяне разбудзіў. Вось бачыш — проста з гулянкі, — ён кіўнуў на свае бацінкі і зноў засмяяўся, відаць, успомніўшы нешта прыемнае. Гэты яго смех чамусьці абразіў яўменавы светлыя пачуцці і адначасова неяк абяззброіў яго — ён не ведаў, чым яшчэ можна ўпікнуць свайго бестурботнага напарніка.

— Пасароміўся-б... Я яшчэ не снедаў.

— Хэ! Кажуць, работа дурняў любіць, — не паднімаючыся, Валянцін пачаў сцягваць з сябе кашулю. — А я не ведаю, што з леташнім хлебам рабіць. Прасіў у дырэктара машыну, каб завезці на рынак, — не даў, скнара гэткі.

— Падвядзеш ты, Валя, брыгаду...

— Скідай свой камбінезон... Я падвяду?.. Хэ!.. Дрэнна ты мяне ведаеш! Цябе магу, а брыгаду — ніколі, — і ён зноў засмяяўся, прыгладжваючы далонямі свае чорныя жорсткія валасы.

Снеданне Яўмену падавала дачка гаспадыні, шаснаццацігадовая Галя. Сама гаспадыня даўно была ў полі.

Яўмен апетытна еў яешню з гарачай бульбай.

Галя сядзела на лаве, бліжэй да дзвярэй, насупраць расчыненай печы, і ўпотай, крыху сараміва, паглядала на трактарыста. Яна клапатліва, як маці, папярэджвала кожны яго рух: сама наразала хлеб, падавала соль, малако або рушнік.

— Садзіся са мной снедаць, Галя, — запрасіў Яўмен.

Дзяўчына, нібы пакрыўджана, адказала:

— Што я галодная, ці што? Я ўжо снедала.

— Што ты снедала? Тут-жа яешня!

— А і не люблю яе, яешню. Думаеш, усе яе так любяць, як ты?

Яўмен ведаў, што Галя ва ўсім паводзіць сябе, як зусім дарослая, і знарок размаўляў з ёй, як з малой. За гэта яна крыху недалюблівала яго і больш сябравала з Валянцінам. Можа таму яна і вырашыла цяпер адплаціць Яўмену за яго нежаданне прызнаць яе цалкам дарослай. Адвярнуўшыся і гледзячы ў акно, яна сказала:

— Дружочак твой, Валянцін, да самай раніцы з Надзяй гуляў.

Яўмен папярхнуўся. Твар яго заліўся чырванню. Галі стала шкада яго.

— Круцёлка яна, гэтая Надзя! — шчыра сказала дзяўчына. — Думае, калі прыгожая, дык ёй можна галовы ўсім кружыць. І сябра твой таксама добранькі...

Яўмен узлаваўся.

— Галька! Гэта не твая справа! Ты яшчэ малая...

— Хм!.. малая! Я не люблю людзей, якія падманьваюць... А яшчэ камсамольцы!..

Абурэнне дзяўчыны супраць яго напарніка канчаткова пераканала Яўмена, што ўсё, аб чым яна сказала, праўда. Ён кінуў на стол відэлец і выйшаў з хаты, не скончыўшы снедання.

Што рабілася ў яго душы! То агнём пякло, то абдавала ледзяным холадам. Спачатку ён ляжаў на сваёй пасцелі пад павеццю і да драбніц успамінаў свае сустрэчы з Надзяй, усё, што яна гаварыла. Ад успамінаў гэтых рабілася нестрывала балюча: «А яшчэ сябра! — думаў ён пра Валянціна. — Я цябе на трактары вучыў! А ты гэтак... Пачакай-жа!..» Яўмен намагаўся прыдумаць напарніку помсту, але прыдумаць нічога не мог і ад гэтага злаваўся яшчэ больш.

Урэшце ён вырашыў неадкладна схадзіць да рэчкі, куды прыгналі ўжо статак, і ўбачыць Надзю. Ён па вачах пазнае яе думкі, бо калі яна ашуквала яго, то, пэўна-ж, збянтэжыцца, адчуе сябе ніякавата. А можа, наадварот? Можа, яна хоча пажартаваць з Валянціна, трохі павадзіць яго за нос, ускружыць галаву? Усе-ж кажуць, што яна насмешніца і жартаўніца. Гэтая думка суцешыла Яўмена. Сапраўды, хіба можа яна пакахаць Валянціна, ведаючы, што яе кахае другі чалавек, больш старанны, працавіты і больш сур'ёзны. Ды і з твару, бадай, прыгажэйшы...

Вышаўшы з-пад паветкі, Яўмен убачыў Галю, якая назірала за ім праз акно, і схамянуўся ад нечаканай думкі.

«Калі пра гэта ведае Галя, дык, пэўна-ж, пра гэта ведае ўся вёска. І паспрабуй зараз паказацца на вочы даяркам — пальцамі будуць паказваць, падсмейвацца. Яны ўмеюць».

Яўмен вярнуўся назад, кінуўся на пасцель. «Заснуць-бы!..» Але сон не прыходзіў. Хлопец так і не здолеў заснуць да самага вечара.

А ўвечары, прышоўшы на змену, ён не мог глянуць напарніку ў вочы, адчуваў сябе неяк няёмка, быццам сам быў вінаваты. Развіталіся яны, як ніколі, халодна.

Ноччу, на працы, у яго гудзела ў галаве і — чаго не здаралася раней — не ладзілася з трактарам, з плугамі: то пераграваўся матор, то заядала цягу ад плугоў... Няроўная ішла глыбіня, з'яўляліся агрэхі. Яўмен праклінаў дзірван, лаяў праўленне калгаса, што так запусцілі поле, дырэктара МТС, што не даў ім новы трактар, хоць у душы адчуваў, што справа не ў гэтым. І поле — як поле, і трактарам сваім ён ганарыўся дагэтуль, не раз казаў, што не памяняе яго і на новы.

Ноч была душная. Хмары віселі так нізка, што здавалася: падымі руку — і дакранешся да цёплага, мяккага воблака. Зрэдку хмары разрываліся, і з бяздоння неба глядзелі далёкія зоркі, адзінокія і сумныя. На зямлі не было ні расінкі, і пыл у святле фар падымаўся, як у спякотны дзень.

На світанні, знясілены, Яўмен спыніў трактар, саскочыў на зямлю і паваліўся ў старую разору, на траву.

Яго разбудзіў Валянцін, асцярожна пакратаўшы за нос: так будзяць малых. Яўмен сеў, праціраючы вочы. Пачынаў ісці дождж, дробны і нясмелы. Валянцін спытаў сур'ёзна і чула, нават у вачах яго не было знаёмых іскрынак смеху, якія не згасалі там амаль ніколі:

— Ты што... захварэў? — і, не дачакаўшыся адказу, растлумачыў, кіўнуўшы на раллю: — Ты бадай што і нормы сёння не даў.

— Душна было, — адказаў Яўмен.

— Душна, — зноў-такі без жарту ці іроніі згадзіўся Валянцін і пайшоў да трактара.

Яўмен накінуў на плечы свой зашмальцаваны пінжачок, адышоўся раптам адчуў, што ў яго пасвятлела на сэрцы.

«А фізіяномія ў яго сёння кіслая. Ніколі яшчэ Валянцін Лабанок не быў такі сур'ёзны, сумны»... — Чым больш ён думаў аб тым, як размаўляў з ім напарнік, тым весялей яму рабілася. Ён не вытрымаў і пайшоў цераз калгасны двор, хоць гэта і было яму не па дарозе.

І сапраўды, спаткаў Надзю

Яму нават здалося, што яна знарок чакала яго. Надзя стаяла каля студні, у белым халаце, з-пад марлевай павязкі выбіваліся пасмы прыгожых залацістых валасоў. Яна налівала ваду ў бочку. У сваёй незвычайнай вопратцы была яна яшчэ больш прывабнай, чым у святочным плацці, якое надзявала ўсе тыя вечары, калі яны сустракаліся. Яўмен бачыў: яна ўгледзела яго яшчэ здалёк, але рабіла выгляд, што не заўважае, — адвярнулася, нахілілася над студняй. Яўмен падышоў нясмела, спыніўся воддаль, назіраючы, як яе загарэлыя рукі бягуць па слізкім вочапе. Вынырнула вялікае драўлянае вядро, хіснулася, вада палілася на босыя ногі дзяўчыны. Яна засмяялася і, павярнуўшыся, сказала:

— Добрай раніцы, Квачык.

У яе вачах закаханы хлопец убачыў тое, што прагнуў убачыць, — весялосць, ласкавасць, не было ў іх ні разгубленасці, ні сораму.

— А які ты мурзаты! Станавіся, спаласну цябе разок, увесь пыл сплыве, — і яна, набраўшы ў жменю вады, жартаўліва пырснула на яго.



Ён стаяў, не зводзячы з яе позірку, і на твары яго зззяла найшчаслівейшая ўсмешка. З гэтай усмешкай ён адказаў на яе жарт, здавалася яму, самымі значнымі словамі, якія толькі можна было сказаць у такую незвычайную хвіліну:

— Пыл я змыю! — і гэта гучэла так: на пыл ты не глядзі! І ўжо звычайным голасам растлумачыў: — Душна было.

— Нешта твой трактар усю раніцу маўчаў, — сказала Надзя.

Ён збянтэжыўся і, не ведаючы, што адказаць, схлусіў:

— Гаручае не падвезлі, — і сам спалохаўся: а раптам яна ведае, што гаручае падвезлі ўвечары, ці сустрэне выпадкам старшыню і скажа яму. У Яўмена загарэліся шчокі, але, на шчасце, Надзя нічога не прыкмеціла.

— Ну, ідзі снедаць, Квачык, а то мяне чакаюць, — сказала яна і шпарка пайшла да будыніны пад шыферным дахам, з акна якой выглядалі яе цікаўныя сяброўкі.

Снедаючы, Яўмен са смакам з'еў сваю яешню і выпіў амаль цэлы гладыш халоднага малака. Засынаў ён з шчаслівай усмешкай на вуснах. Па гонтавым даху паветкі аднастайна, але прыемна, бубніў дождж.

Пад вечар дождж сціх, прамачыўшы зямлю ўсяго на некалькі сантыметраў. Але ў паветры было свежа, не ўзнімалася ні пылінкі. Плугі рэзалі вільготную зямлю, як масла, чорныя тлустыя скібы лажыліся адна пры адной і цягнуліся доўгімі хвалістымі лініямі. Здавалася, ніколі яшчэ так добра не працаваў яўменаў трактар. Машыне таксама, відаць, палягчэла пасля дажджу. Павольна наплываў змрок, засвяціліся электралямпачкі на калгасным двары. Яўмен уключыў фары, але не збавіў хуткасці.

А раніцою ўліковы трактарнай брыгады двойчы перамяраў плошчу, не паверыўшы першы раз сваім падлікам: баяўся, што памыліўся, бо выпрацоўка Яўмена Квача за змену — начную змену! — перавысіла рэкорд найлепшага трактарыста МТС Сяргея Бярозкі.

Пераможцам здаваў Яўмен змену, пераможцам ішоў ад трактара ў вёску, зноў-жа цераз калгасны двор. Але Надзі на гэты раз не спаткаў.

Пасля снедання ён сядзеў на прызбе — прыемна пагрэцца на ранішнім сонцы — і чытаў раённую газету, у якой зноў (каторы раз за вясну!) пісалі пра Сяргея Бярозку. Яўмен чытаў і думаў, што добра было-б, каб і пра яго працу напісалі ў наступным нумары газеты. Няхай-бы прачытала Надзя, ёй, безумоўна, таксама прыемна было-б перад сяброўкамі. Дарэчы, газета выйдзе якраз напярэдадні таго дня, калі скончыцца яго начная змена, і ён зможа ўвечары гуляць.

З горада прышла Галя, якую ён сёння яшчэ не бачыў, прывіталася і села насупраць, каля паветкі, абхапіла рукамі каленкі і ўтаропілася ў трактарыста. Яўмен паспрабаваў чытаць далей, не звяртаць на яе ўвагі, але праніклівы позірк дзяўчыны ўстрывожыў яго. Зноў заныла ў сэрцы ад прадчування нечага непрыемнага. Ён рабіў выгляд, што чытае, а сам раз-по-разу пазіраў на яе, чакаючы яе слоў, як удару. І не памыліўся...

— А Валянцін зноў з Надзяй гуляў да самай раніцы, — ціха, неяк таямніча, паведаміла Галя.

Яўмену раптам здалося, што яна здзекуецца з яго, насміхаецца, і ён узлаваўся, — шыбнуў газету, падхапіўся з прызбы.

— А мне што да гэтага? Чаго ты да мяне прычапілася?!

І падумаў сабе: «Што гэта за жыццё! Пайду зараз да старшыні і папрашу, каб перавёў на другую кватэру...»

Спалоханая Галя кінулася ў хату, але там яе з папрокам сустрэла маці. Яна чула іх размову на двары.

Дзяўчына нават расплакалася.

Яўмен нікуды не пайшоў, яму шкада было Галі, а яшчэ больш сябе.

Ён цвёрда вырашыў выкінуць яе з свайго сэрца і з думак, заглушыць пачуццё, і каб не хваляваць сябе, ні з кім не гаварыць пра гэта ні слова — ні з Валянцінам, ні, тым больш, з ёй, з Надзяй. Але ад гэтага «цвёрдага рашэння» нічога не засталося, калі ён у першы вечар пасля начной працы выйшаў на гулянку. Нясмела падыходзіў ён да клуба, дзе іграў баян і на пляцоўцы танцавала моладзь. Баяўся, што хлопцы пачнуць кпіць, смяяцца з яго няўдалага кахання. Але ніхто нічога не сказаў, хлопцы прывіталіся з ім па-сяброўску. Толькі Цімох Сарока, калгасны электраманцёр, сказаў:

— А вось і наш герой!

Але сказаў ён гэта сур'ёзна: напярэдадні ў раённай газеце быў надрукаваны артыкул пра яго, яўменаву, стаханаўскую працу.

Каля клуба гарэў вялікі электрычны ліхтар. Яўмен убачыў сярод дзяўчат Надзю і адчуў, як зноў моцна закалацілася сэрца. Якая яна прыгожая!

Не, ён павінен пагутарыць з ёй апошні раз, высветліць усё да канца, каб ніякія сумненні ці ніякія надзеі не грызлі больш яго сэрца.

Ён танцаваў з другімі, дзяўчатамі, курыў жартаваў з хлопцамі, а думаў пра адно: што сказаць ёй?

Ён пачне з таго, што спытае, ці чытала яна артыкул у газеце, а пасля скажа: «Надзя! Я заўсёды буду працаваць так, нават лепш... Я буду зарабляць многа хлеба і грошай... І калі ты... Як мы будзем жыць!.. Мы нават уласную машыну купім, як той Бярозка!» Але праз момант словы гэтыя здаліся да недарэчнасці наіўнымі і нясціплымі, і ён адмовіўся ад іх.

Ён скажа інакш. Ён адпомсціць Валянціну, бо калі Валянцін так ставіцца да сябра, з якім трэці год, можна сказаць, есць з адной міскі, то няхай і сам не чакае літасці. Ён проста і злосна, знарок злосна, скажа Надзі, што Валянцін гультай, што ён не любіць працаваць, што ўзімку на рамонце ён атрымаў вымову. І нават больш — будзе здзекавацца і смяяцца з яго: «Ён-жа падобны на дзятла, калі глядзець

на яго збоку, а калі проста ў твар, то нельга не заўважыць, што ў яго крыху скрыўлены нос».

А Надзя раптам возьме і адкажа: «Які ты дрэнны чалавек, калі так нагаворваеш на сябра».

І правільна зробіць, калі гэтак адкажа. Валянцін сапраўды часам ленаваўся, але нос у яго не скрыўлены: гэта ён сам выдумаў на сябе, калі аднойчы, пагаліўшыся, глядзеў у люстэрка.

Не, лепш за ўсё проста спытаць у яе па-сяброўску: «Скажы, Надзя, ты кахаеш Валянціна?»

Яна павінна адказаць. А можа здарыцца, што ў адказ яна абдыме яго, засмяецца і ласкава-ласкава скажа: «Які ты дурны, Квачык! Я кахаю толькі цябе!»

Уявіўшы гэта, Яўмен ажно задыхнуўся ад шчасця.

Відаць, нямала яшчэ і іншых варыянтаў размовы з'явілася-б у яго галаве, каб ён раптам не заўважыў, што Надзя знікла з пляцоўкі. Забыўшыся на ўсё, Яўмен адразу кінуўся шукаць яе. І тут упершыню пачуў за спіной смяшок:

— Даганяй яе каля трактара!

Гэтыя, сказаныя некім, уедлівыя словы страшэнна ўразілі яго

Няўжо?.. Няўжо яна пабегла ў поле, каб там, на працы, спаткацца з Валянцінам?

Яўмен схаваўся ў цяню ліп каля калгаснага саду і доўга, стаіўшы дыханне, слухаў, калі-ж урэшце спыніцца трактар. Ды час ішоў, а трактар гудзеў паранейшаму і праз дрэвы саду было відно, як па полі плыве святло фар. Калі прайшло столькі часу, што яго хапіла-б, каб двойчы схадзіць да трактара і назад, Яўмен з палёгкай уздыхнуў і, абышоўшы клуб, каля якога ўсё яшчэ іграў баян, рушыў па соннай вуліцы вёскі.

Надзя з сяброўкай сядзела на лавачцы каля сваёй хаты. Узрадаваны Яўмен падышоў да іх, папрасіў дазволу прысесці.

— Калі ласка, — адказала сяброўка і адразу-ж паднялася. — Дык я пайду, Надзечка, спаць. Ты будзі мяне заўтра, а то я зноў прасплю.

Яўмен з удзячнасцю правёў яе позіркам.

Яны засталіся ўдваіх. Сядзелі воддаль адзін ад аднаго і маўчалі. Надзя, не падымаючы галавы, наском туфля чарціла на пяску нейкія літары. Яўмен пазіраў на яе і крыху зларадасна думаў: «Ага, няёмка табе, сорамна?» Але і сам не ведаў, з чаго пачаць размову. Ад хвалявання яму стала холадна, хоць вечар быў цёплы.

Ён сказаў пра надзіну сяброўку:

— Разумная дзяўчына Клава.

Надзя не адказала.

Тады ён услухаўся ў гудзенне трактара, якое то сціхала, аддалялася, то набліжалася, расло, і заўважыў:

— Газуе Валянцін.

Надзя і брывом не павяла, быццам упершыню пачула гэтае імя. Яўмен разгубіўся. Усяго тыдзень таму назад яна была такая гаваркая— расказвала бесперапынку, жартавала... А цяпер... Але раптам Надзя ціха засмяялася і, глянуўшы на яго, сказала:

— Якое ў цябе непрыгожае імя, старое — Яўмен, — і пасля кароткай паузы дадала: — І прозвішча таксама... Як мянушка...

Ён сам не любіў свайго імя, аднак, ніхто ў жыцці не гаварыў яму такіх абразлівых слоў. Але больш балючым і страшным за абразу было іншае: ён зразумеў, што гэта яе адказ на ўсе яго пытанні, на ўсе надзеі і спадзяванні, больш ім няма пра што гутарыць. Ён пасядзеў моўчкі яшчэ хвілінку і, падымаючыся, сказаў:

— Валянцін, вядома, лепшае...

— Валянцін... Валя... — неяк радасна, летуценна сказала яна і неяк незвычайна, шчасліва засмяялася.

Ён развітаўся не сваім голасам:

— Добрай ночы.

— Добрай ночы, — сур'ёзна адказала Надзя і ласкава папрасіла:— А ты, Квачык, не крыўдуй на мяне. Не трэба.

Няхай-бы яна лепш не гаварыла яму гэтых ласкавых слоў! Здавалася, каб яна засмяялася здзекліва, дык яму не было-б так балюча, як ад гэтых слоў. Ён ішоў, як у сне, нічога не чуў і не бачыў. Каля саду яго спыніў Цімох Сарока, які ішоў з дзяўчынай, папрасіў закурыць. Запаліў запалку, глянуў Яўмену ў твар і ціха, каб не пачула дзяўчына, сказаў:

— Я на тваім месцы такому сябру морду пабіў-бы.

— Што-о? — быццам не зразумеўшы, спытаў Яўмен і моўчкі пайшоў далей.

Непрыкметна для сябе, ён вышаў у поле і, пасля сам не мог успомніць як, апынуўся каля трактара.

Валянцін убачыў яго, спыніў машыну і, не заглушаючы матора, крыкнуў:

— Што здарылася?

— Злазь! — махнуў рукой Яўмен.

— Што-о?

— Злазь! — голас яго, суровы і ўладны, быў добра чуваць і праз рокат матора.

Валянцін саскочыў на зямлю і, глянуўшы сябру ў твар, адступіўся.

Яўмен, нічога не кажучы, лёгка ўскочыў на сядзенне, скінуў пінжачок свайго выходнага гарнітура, згарнуў яго падкладкай наверх.

— У чым справа? — наблізіўся Валянцін.

— Ідзі, цябе чакае Надзя!

Яўмен крануў трактар і адразу пераключыў на вышэйшую хуткасць.

Валянцін бег побач і крычаў на ўвесь голас:

— Надзя? А што здарылася? Што?.. Ды скажы ты па-чалавечы! Вар'ят!..

Яўмен махнуў рукой у напрамку вёскі.

Валянцін на момант адстаў, пастаяў нерухома, а потым перагнаў трактар і, не аглядаючыся, пабег да вёскі.

Яўмен убачыў, як шпарка ён пабег, і ўсмешка ўспыхнула на яго твары.

Ён зразумеў, што за недарэчная думка з'явілася ў напарніка, уявіў, як ён будзе шукаць Надзю, як, калі яна пайшла спаць, разбудзіць яе бацькоў...

Не, не тое. Яўмен зразумеў, што яны, Надзя і Валянцін, па-сапраўднаму кахаюць адзін аднаго. Ад гэтага стала лягчэй на душы, зніклі роспач і крыўда. Застаўся толькі смутак: было шкада сябе, няўдачніка. Ён цяжка ўздыхнуў і рушыў трактар яшчэ шпарчэй.

Наперагонкі з трактарам, ныраючы за хмары, бег месяц.

**Максім ТАНК**

# *На полі бітвы*

Разгорнеш толькі свежую газету —
І гром гарматны чуецца над светам.
Каторы год над дальняю Карэяй
Агонь вайны бушуе і шалее!
Яшчэ мо' днём, за працаю няспыннай,
Забыць ты гэта зможаш на хвіліну,
Але ўначы ўсёроўна апынецца
На полі бітвы раненае сэрца.

І ўбачыш ты: разбітыя траншэі,
Калючы дрот, што ў скрутках іржавее,
Заплыўшыя крывёй варонкі, каскі
І трупы лютых выраддкаў з Небраска
Ці з нейкай там заморскай Арызоны —
Тых наймітаў праклятых Пентагона.
Чаго, забойцы, ў гэты край прышлі вы!
Каб спапяліць і гарады і нівы,
Каб закаваць ізноў народ у путы!
Каб з новага плацдарма перакінуць
Агонь за Ялу і ў маю краіну!
Няма вам апраўдання з той мінуты,
Як вы свой першы ў ствол патрон загналі
І зелень траў крывёй афарбавалі!
Бо хто страляе ў мужных абаронцаў
Свабоды, міру, — той страляе ў сонца,
Што залацісты колас налівае,
І ў калыханку матчыну страляе,
І ў несмяротную сімфонію, паэму,
Што не паспелі напісаць яшчэ мы,
І ў вечную красу зімы і лета,
І ў маладосць, і ў будучыню свету!..
Няхай-жа ваш агідны прах, як смецце,
Хутчэй развее па далінах вецер!

Я чую стогн.... Хто там мяне аклікнуў
На полі бітвы змоўкшым, амярцвелым!
Ці можа тонкі каласок паніклы,
Былінка, што тут цудам ацалелі!
Ці можа дрэва з ранаю глыбокай,
Што слёзна плача над крутым патокам!
Не, гэта — брат мой, Кім Ір Сена воін,
Што паў, смяротна ранены ў час бою.
Калі я даў яму вады з баклагі,
Ён уздыхнуў і, ўтаймаваўшы смагу,
Спытаўся толькі: — ці адбіты вораг!
— Адбіты, — адказаў я, — і ўжо скора
Байцы другія прыдуць на падмогу,
Каб гэты бой закончыць перамогай. —
І хоць пагаслі яго вочы, знаю:
Зару свабоды бачыў ён над краем
І быў шчаслівы, што ён выйграў бітву,
Што ў час апошні чуў ён не малітву,
Не маткі плач, але загада словы
На двух — карэйскай і кітайскай — мовах:
Агонь!..
Агонь!..

**Дзмітры КАВАЛЁЎ**

# Сям'я юнак

**Нарыс**

Фота А. Дзітлава.

Мы прывыклі называць сям'ёй працоўны калектыў. Гэта добрая звычка. Яна гаворыць аб многім. Але адна справа, калі гутарка ідзе аб такой сям'і, якая склалася даўно, мае свае традыцыі, у якой ёсць нямала старых, вопытных рабочых, якія па-бацькоўску строга і любоўна выхоўваюць моладзь. І зусім іншая справа, калі гутарка ідзе аб такой сям'і, члены якой могуць быць дзецьмі пажылых рабочых.

Вось яна. Самаму старэйшаму з гэтай маладой сям'і — Якаву Козыру — дваццаць шэсць гадоў. І на яго ўжо тут глядзяць, як на «старэнькага». Так і кажуць: «Наш старэнькі». Праўда, гаворыцца гэта заўсёды цёпла, з гумарам, але і не без павагі. Як ты ні кажы, а Якаў Змітравіч быў у партызанах, завод гэты будаваў і ў партыю ўжо даўно ўступіў. А ў цэх пускавых матораў, у комсамольска-маладзёжную брыгаду токараў ён прышоў адным з першых. І хоць Якаў Змітравіч радавы токар, а без яго парады тут не абыходзяцца. У яго вучацца. І брыгадзір Міхась Будай без яго не вырашае ніводнага важнага пытання, таму што ён старэйшы, ён — комуніст. Астатнія-ж члены брыгады яшчэ зусім маладыя, комсамольцы. Кожнаму з іх не больш васемнаццаці-дзевятнаццаці гадоў. Толькі брыгадзіру дваццаць адзін год.

Працуюць яны не горш за старых рабочых і нездарма карыстаюцца павагай на Мінскім трактарным заводзе.

Далёка не ўсім брыгадам завода прысвоена званне брыгад выдатнай якасці. А комсамольска-маладзёжная брыгада Міхася Будая ўжо даўно носіць і апраўдвае гэтае пачэснае званне. 200 — 250 працэнтаў нормы — такая яе месячная выпрацоўка. Апярэджваючы час, тут працуюць ужо ў лік 1956 года.

Не горш, чым старыя вытворчыя калектывы, выхоўвае гэтая юная сям'я навічкоў.

Дрэнна адзываліся спачатку на заводзе аб выпускніку рамесніцкага вучылішча Леаніду Ільіну. Ён не адразу знайшоў сваё месца ў калектыве. І ў цэху Леанід працаваў не па спецыяльнасці — стружку вывозіў.

— Ільін, — гаворыць Міхась Будай, — са мной вучыўся ў рамесніцкім вучылішчы. І мне стала крыўдна за таварыша. Параіўся я з сакратаром заводскага комсамольскага камітэта Васілём Чайкоўскім і кажу Ільіну. «Пераходзь, Лёня, у нашу маладзёжную брыгаду. Токарам будзеш».

І праўду кажуць, што ніякія ўгаворы і спагнанні не могуць зрабіць таго, што робіць уплыў згуртаванага, дружнага калектыва. А брыгада Будая славіцца сваёй дружбай. Перайшоўшы ў гэтую брыгаду, Леанід Ільін не мог заставацца ранейшым.

— Нам не трэба было траціць шмат часу на яго перавыхаванне, — расказвае Міхась Будай. — Хлопец неяк адразу перамяніўся. Стаў больш сур'ёзным, простым, а галоўнае, вельмі кемлівым у рабоце. Адчуў хлопец, што і ён цяпер адказвае за ўвесь наш калектыў, і за яго ўсе адказваюць.

Зараз Леанід — токар-стахановец чацвертага разраду. Працуе на трох станках. Не так даўно яго прынялі ў комсамол.

У брыгадзе Будая ёсць і рацыяналізатары. Тут цэняць і паважаюць кожнага, хто ўносіць у работу нешта свае, новае. Токар гэтай брыгады Мікалай Старадубаў ужо даўно служыць у радах Совецкай Арміі. Але аб тым, што ён замест адной паставіў дзве фрэзы на станку і замест двух прагонаў дэталі пачаў рабіць адзін, ведаюць нават тыя, хто прышоў на завод пасля Мікалая Старадубава. Відавочна так, з такіх, здавалася-б, звычайных у нашым жыцці з'яў і складваюцца добрыя традыцыі калектыва і добрая слава аб ім.

Вольга Крупнова прыехала на Мінскі трактарны з Волхава, там жыве і працуе на алюмініевым заводзе яе маці, там яна закончыла рамесніцкае вучылішча. Аня Ржэвуцкая да прыезду ў Мінск працавала токарам у Рагачоўскай МТС. Але якімі-б маладымі ні былі члены комсамольска-маладзёжнай брыгады Міхася Будая, на заводзе пра іх гавораць, што гэта лепшыя рабочыя. І нікога не здзіўляе, што сярод іх двое ўжо дэпутаты раённага Совета — брыгадзір Міхась Будай і васемнаццацігадовая комсамолка Вольга Крупнова. Аня Ржэвуцкая і Марыя Казлоўская — маладыя маці. Але гэта не перашкаджае ім выдатна працаваць на заводзе, займацца ў гуртку па вывучэнню гісторыі партыі, удзельнічаць у грамадскім жыцці. А Марыя, апрача таго, яшчэ з'яўляецца салісткай заводскага самадзейнага хора.

Такое яно бурлівае, жыццерадаснае наша юнацтва, такая наша совецкая моладзь!

У брыгадзе Міхася Будая — сем чалавек.

— Раней у нас было восем чалавек, — гаворыць Міхась. — Але мы рашылі, што зможам справіцца са сваёй работай і ў семярых. І спраўляемся. Цяпер думаем яшчэ вызваліць аднаго чалавека для работы на другім участку. Толькі вось не ведаем, каго вызваліць: ніхто не хоча ад брыгады адлучацца. Асабліва Ільін.

Увесь цэх застаўлены станкамі, механізмамі. Але ад гэтага ён не выглядае меншым. Велізарная прастора, якую ён займае, яшчэ нібы павялічваецца ад таго, што зверху, праз зашклёны дах, падаюць шырокія палосы святла. Тут працуюць сотні людзей. Станкі стаяць радамі, як парты ў школе. Паміж радамі — шырокі праход. Адзін з такіх шматлікіх радоў абслугоўваецца комсамольска-маладзёжнай брыгадай Міхася Будая.

Колькі дэталей мае пускавы матор звычайнага нашага трактара! Іх, здаецца, не пералічыш. Брыгада Міхася Будая апрацоўвае з гэтай велізарнай колькасці дэталей толькі адну — поршань пускавога матора. Гэта невялікая цыліндрычнай формы дэталь, адлітая з дзюралюмінія. А колькі трэба затраціць працы, каб, ужо адлітую, апрацаваць яе! Яна праходзіць праз рукі ўсіх сямі токараў і свідравальшчыц, прычым кожны з іх выконвае па чатыры працэсы, прапускае дэталь праз тры-чатыры станкі. І толькі пасля гэтага гатовы поршань дакладна правяраецца. Праверка робіцца на навейшым апараце, які называецца пнеўматычным соліксам. Дакладнасць яго—да адной тысячнай долі міліметра. Па плану брыгада



...Якаву Змітравічу Козыру (на здымку справа) дваццаць шэсць год. І таму, што ён старэйшы, і таму, што ён комуніст, брыгадзір Міхась Будай без яго не вырашае ніводнага важнага пытання.



... і сярод іх — комсамолка, дэпутат раённага Совета, Вольга Крупнова.

павінна даць за змену 75 поршняў, а дае яна 200, 300, а то і чатырыста поршняў.

Мы прышлі ў брыгаду Будая ў абедзенны перапынак. Усе, паабедаўшы, сабраліся ў цесны гурток, размаўлялі, жартавалі. І толькі адзін высокі чырвонашчокі хлопец, на твары якога захавалася яшчэ нешта дзіцячае, перакладваў бліжэй да станка груду неапрацаваных поршняў.

— Гэта наш самы малодшы таварыш, — сказаў Міхась Будай.— Я яшчэ вам пра яго не расказваў. Завуць яго Валянцін, а прозвішча Аніскевіч. Да нас ён прышоў, не закончыўшы нават сямігодкі. Зараз працуе і вучыцца ў вячэрняй школе. Брат яго на нашым заводзе, і яму параіў сюды паступіць. А ўсіх у яго сем братоў.

— І тры сястры, — дадаў Валянцін, не разгінаючыся.

— А ты, відаць, самы шустры сярод іх, — сказала вострая на язык Марыя Казлоўская.—І ў абедзенны перапынак нават працуеш, хочаш, мабыць, усіх абагнаць...

— А што з таго, што ён працуе, — сказаў Якаў Змітравіч. — Усёроўна, колькі-б ён ні зрабіў, а як дойдзе да гэтага вось вінціка — дык і ўся справа спыніцца.

Якаў Змітравіч, трымаючы на далоні невялікі вінцік з чырвонай медзі, з крыўдай гаварыў:

— Вось праз гэтую штучку ў нас бываюць такія прастоі, што потым нават пры ўсёй нашай зладжанасці і стараннасці мы выконваем месячны план толькі на дзвесце працэнтаў. І вінаваты ў гэтым кіраўнікі аўтаматнага цэха: ніяк не могуць наладзіць выпуск патрэбнай дэталі. А гэтую-ж партыю поршняў мы рыхтуем для новага трактара «Беларусь».

— У «Кракадзіл»-бы іх, гэтых дзядзькоў з аўтаматнага цэха, — ужо без усмешкі, злосна сказала Марыя.

— У «Кракадзіл» і нас не пашкодзіла-б...

— За што? — пачулася адразу некалькі галасоў.

— Думаеце, няма за што? — адказаў брыгадзір. — За тое, што тэхвучобу кепска наведваем. Учора на комсамольскім сходзе проста саромна было. Вымпел-жа аддалі брыгадзе Зайцава, не паглядзелі і на наша пяршынства, і на высокія паказчыкі... І правільна зрабілі: хто слаба вучыцца, той і ў рабоце доўга не ўтрымаецца на першым месцы.

З хвіліну ўсе маўчалі. Потым Вольга Крупнова сказала:

— Спасылаемся на тое, што перагружаны. Шкадуем адзін другога, думаем, што сапраўдная дружба — гэта «не чапай сваіх». А ўжо даўно-б час сур'ёзна пагаварыць пра вучобу.

— І пагаворым, — сказаў Міхась Будай.

... Пад вечар, ідучы з завода, мы спыніліся ля вялікай вітрыны каля прахадной. Пад шклом быў вывешан свежы нумар «Заводскага Кракадзіла». Цэнтральнае месца ў ім займала карыкатура: на карабку ад запалак ляжаў малюсенькі медны вінцік. За сталом перад ім сядзелі два начальнікі цэхаў — Аніканаў і Ачакоўскі з глыбокадумнай мінай на твары. Над карыкатурай—загаловак: «Маленькая дэталь і вялікія дзядзі».

Дзяўчаты абступілі вітрыну. Заходзячыся ад смеху, адна з іх увесь час паўтарала:

— Ай-яй-яй, і як-жа-ж гэта ім не сорам!



І дзіўна, і разам з тым прыемна, бачыць новы, узнікшы літаральна на вачах велізарны завод і цэлы горад побач з ім — з кінотэатрам, магазінамі, школамі, больніцамі і іншымі ўстановамі, І тут-жа, побач з усім гэтым, — невялікія купкі стогадовых сосен з уцалеўшым пад імі мурашнікам. Не трэба шукаць старажылаў, каб распытацца пра тое, як будаваўся гэты горад, гэты завод. Нават дзеці школьнага ўзросту могуць падрабязна расказаць вам аб тым, як сюды прышлі першыя будаўнікі, як паставілі яны тут палаткі, потым пабудавалі барак. І ўсё гэта пачало называцца «Трактарабудам». Не прайшло і трох год, як «Трактарабуд» стаў Трактараградам. І пачаў расці, папаўняцца ўсё новымі і новымі сіламі рабочы клас рэспублікі. Старыя кадравыя рабочыя Чэлябінскага і Сталінградскага трактарных заводаў, нашы старэйшыя рускія браты, прынеслі сюды свой вопыт, свае традыцыі. Усё гэта хутка прывілося нашай працавітай моладзі. І не без гонару мы сёння гаворым аб тым, што больш сямідзесяці працэнтаў рабочых Мінскага трактарнага завода — гэта комсамольцы, моладзь. Гэта сям'я юных, якая будуе па заветах Леніна і Сталіна комунізм.

**... Сябры сабраліся ў тэатр. «У нас сёння білеты ў першым радзе!» — гаворыць Вольга Крупнова Марыі Казлоўскай** (на здымку злева) **і Міхасю Будаю, якія зайшлі па яе.**



# ПА ВУЛІЦАХ ГОРАДА ЖОЎТАГА Д'ЯБЛА

**Міхась ЛЫНЬКОЎ**

**З падарожных нататак**

Пасля пяці сутак адкрытага акіяна, калі ваша вока ўжо звыклася з бязмежжам вадзяных прастораў, раптам вы заўважаеце з правага боку няясныя абрысы далёкага берага. Ён паступова набліжаецца, і калі вы зможаце ўжо адрозніць нейкія будыніны на ім, тады пачынае вырысоўвацца і другі бераг, з левага боку. Параход уваходзіць у ніжні заліў, дзе адлегласць ад берага да берага вымяраецца яшчэ дзесяткамі кіламетраў.

На хвіліну выглянула сонца з-за хмар, і нам здаецца, што пад яго праменнямі акіян нібы палагаднеў, стаў ціхім, ласкавым. Але гэта толькі здаецца. Варта зірнуць на нейкі невялічкі параход, які мы абганяем, каб адразу зразумець нашу памылку: няшчасны параходзік літаральна захліпаецца, зарываючыся то носам, то кармой у грывастыя пеністыя хвалі.

Тым часам берагі падсоўваюцца ўсё бліжэй і бліжэй, паступова звужаюцца, і параход наш праз вузкую — кіламетры ў два — гарлавіну праліва трапляе ў верхні заліў. Сюды ўжо не даходзяць акіянскія хвалі. Паверхня вады ў вясёлкавых нафтавых плямах. І ўдоўж і ўпоперак заліва снуюць параходзікі, буксіры, звычайныя і чыгуначныя паромы, якія цягнуць на сваіх жалезабетонных грудзях дзесяткі па тры таварных вагонаў, дастаўляючы іх з аднаго берага на другі.

Шматлікія пасажыры нашага аграмадзіныпарахода пакідаюць каюты і запаўняюць ніжнія і верхнія палубы. Не сказаць, каб адчувалі яны сябе калумбамі, што ўпершыню ўбачылі зямлю. Ад блізкага знаёмства з акіянам у многіх з іх пашарэлі і выцягнуліся твары, і нічога такога гераічнага, калумбістага вы не заўважыце ў гэтых звычайных пастацях звычайных пасажыраў, якія робяць сваю звычайную паездку па звычайных сваіх справах: едуць паважныя бізнесмены, купцы і камівояжоры, высокапастаўленыя амерыканскія чыноўнікі з маршалізаванай Еўропы, едуць амерыканскія палкоўнікі і капітаны з англійскіх, французскіх і заходнегерманскіх баз і гарнізонаў, едуць багатыя лодырытурысты. Едуць на паклон да амерыканскага дзядзькі ўсякія афіцыйныя грэкі і туркі, іспанцы і італьянцы. Едуць за чарговай падачкай прадажныя міністры прадажных урадаў некаторых заходніх дзяржаў. Вяртаюцца са сваіх еўрапейскіх турнэ амерыканскія сенатары і кангрэсмены, галівудскія дзівы, херстаўскія журналісты, місіянеры, манахі, хіраманты і звычайныя жулікі-прайдзісветы, — уся гэтая велізарная армія людзей, што займаецца вывазам за мяжу так званага «амерыканскага спосабу жыцця», а больш за ўсё ловам рыбы ў мутнай еўрапейскай вадзіцы.

Усе гэтыя людзі верхніх палуб, зірнуўшы абыякава на хмурыя хвалі, на блізкія берагі, гэтак-жа абыякава разыйдуцца па сваіх каютах і салонах да сваіх чамаданаў, да няскончанага снедання, да няскончанай гульні ў карты, да няскончаных псалмоў у музычнай зале. Яны і наверх выйшлі толькі для прылікy: відаць зямля, трэба-ж зірнуць на яе паводле старога марскога звычаю. Але-ж яна такая знаёмая ім, гэтая зямля, да апошняга банка, да апошняга цэнта, — чаго-ж доўга затрымлівацца на палубе.

На ніжніх палубах больш людна. Там усё простыя народ, насельнікі другога, а больш за ўсё трэцяга класа, людзі, якім забаронены ўваход на верхнія палубы. Яны з цікаўнасцю ўглядаюцца ў панараму заліва, з яўнай трывогай у вачах пазіраюць на берагі заліва, на невялічкія астравы і астраўкі, на няясныя абрысы горада, які ўзнікае ў туманнай далечыні. Многія з іх іміграиты. Што чакае іх тут, у гэтай незнаёмай краіне...

Параход тым часам сцішае ход і на некалькі хвілін спыняецца зусім. Да яго прышвартоўваецца невялікі кацер. Па спушчанаму трапу на нашу палубу падымаецца дзесяткі тры чалавек: ваенныя, паліцыя, іміграцкія ўлады, каранцінныя ўрачы і цэлая зграя газетных рэпарцёраў. З падкрэсленай урачыстасцю яны праходзяць каля вас і накіроўваюцца ў самую большую залу парахода. Там ужо расстаўлены ля задняй сцяны некалькі сталоў з выстаўленымі на іх літарамі алфавіту. Да кожнай літары працягнуты па ўсёй зале вузкія праходы з нацягнутых канатаў, тых самых канатаў, якія нацягваліся на параходзе ў залах, калідорах, на палубах у часы штормаў у акіяне.

На здымку ўверсе: **Выгляд на Нью-Йорк — горад Жоўтага Д'ябла.**

Хутка праз гэтыя вяровачныя загарадкі пройдуць усе пасажыры парахода, і ахоўнікі амерыканскіх законаў будуць настойліва дапытвацца ў якога-небудзь насельніка парахода, асабліва калі ён з трэцяга класа ды к таму-ж яшчэ калі выклікае ён сумненні ў сваёй асобе, а чаму ён наважыўся ехаць у «краіну вялікіх свабод» і якіх думак прытрымлівалася бабка яго бабкі, і што думаў яго дзед пра амерыканскія парадкі, і ці не быў ён у сваяцтве з неграмі і, крый божа, з комуністамі, і што, урэшце, думае сам пасажыр пра апошнія загады прэзідэнта, і ці мае ён, пасажыр, прывіўкі ад чумы, ад халеры, ад тыфусу... Калі ў парадку ўсе дакументы, калі ў парадку ўсё з чумой і халерай, тады запытаюць пасажыра, а колькі ён мае грошай і на што ён урэшце разлічвае, на якую працу ён здольны... Адны распытваюць, другія параўноўваюць фотаздымкі, правяраюць дакументы, трэція бесцырымонна і нахабна пстрыкаюць паліцэйскімі фотаапаратамі...

Але мы крыху адхіліліся ад тэмы.

Паліцэйскі кацер адвальваецца ад парахода, як адвальваецца сыты авадзень ад каня. Параход ізноў ідзе, але ідзе ўжо ціха, павольна. Шлях яго абмежаваны з двух бакоў бакенамі, буйкамі. На іх міргаюць сігнальныя агні. На некаторых бакенах званы. Пагойдваючыся на хвалях, яны меланхалічна пазваньваюць, і звон гэты нагадвае чамусьці непрыемную цішыню могілак, тужлівую паніхіду...

А ўперадзе, злева ад барта, вырастае з заліва вялізная, недарэчная, уся ў бледназялёных плямах вокісу медзі Статуя Свабоды. Сляпымі вачыма яна ўзіраецца ў далёкія прасторы акіяна, туды, адкуль прыбылі вы. Параход ідзе, і грузная медная баба паволі паварочваецца да вас бокам. Ля яе падножжа вялізны пірс-прычал для турысцкіх паромаў, за ёю славуты Эліс-Айланд — Востраў слёз. На ім — турма, карантынныя будынкі, прычалы для паліцэйскіх параходаў і кацераў. І ўсё, што бачыце вы ў першыя хвіліны знаёмства з гэтай краінай, глыбока характэрна для яе і сімвалічна. Гучная, крыклівая рэклама аб свабодзе, аб той свабодзе, рэшткамі якой засталіся на памяць гэтыя акісленыя лісты медзі. І побач з сімвалам гэтай ілюзорнай «свабоды» ўжо зусім рэальныя і адчувальныя жалезныя краты турмы Вострава слёз, ды ці толькі гэтай турмы...

А перад вамі ўжо разгортваецца панарама горада, якую колькі разоў бачылі вы на ілюстрацыях, у кінофільмах, пра якую чыталі ў апісаннях Караленкі, Горкага, Маякоўскага. Нібы з вады, вырастае перад вамі дзікае награмаджэнне каменных аграмадзін, шэрых, пракопчаных, непадобных адна на адну. Адны, нібы вострыя шпілі, цягнуцца аж пад самыя воблакі. Другія нагадваюць нязграбныя скасабочаныя піраміды, трэція запазычылі сваю



**Малады амерыканец, схоплены паліцэйскімі на вуліцы Нью-Йорка ў час дэманстрацыі.**

архітэктуру (калі толькі можна назваць гэта архітэктурай!) у тэрмітаў. І здалёк — ніводнага дома, ніводнай будыніны, якая-б вабіла чалавечае вока сваёй прыгажосцю, дакладнасцю архітэктурных форм, утульнасцю, цеплынёй чалавечага жылля.

Гэта пачатак Манхеттэна, яго паўднёвая частка. На гэтым востраве размешчаны цэнтральны раён Нью-Йорка. Некалі Максім Горкі пісаў аб ім: «На беразе стаяць дваццаціпавярховыя дамы, маўклівыя і цёмныя «скрабніцы неба». Квадратныя, пазбаўленыя жадання быць прыгожымі, тупыя, цяжкія будынкі ўздымаюцца ўгару панура і сумна. У кожным доме адчуваецца надзьмутая пышлівасць сваёй вышынёй, сваёй пачварнасцю. У вокнах няма кветак і не відаць дзяцей... Здалёк горад здаецца аграмаднай сківіцай, з няроўнымі, чорнымі зубамі».

Да гэтай трапнай характарыстыкі цяжка дадаць што-небудзь новае. І ўсё-ж сёе-тое новае ёсць. «Скрабніцы неба», аб якіх пісаў Горкі, за дзесяткі год падраслі, з'явіліся новыя. Ад дваццаці паверхаў яны выраслі да трыццаці, да сарака, да сямідзесяці, а некаторыя, як «Эмпайр Стэйт білдзінг», сіганулі ў шэрае пракопчанае неба аж на сто два паверхі, не лічачы вежы і шпіля, які вянчае яе. Гэта новае не мяняе агульнага выгляду горада. Сківіцы «з няроўнымі, чорнымі зубамі» засталіся.

А калі ў вушах стаіць яшчэ меланхалічны звон бакенаў, тады мімаволі прыходзіць і другое параўнанне. Здалёк сілуэт горада падобны на звычайныя амерыканскія могілкі: дамы стаяць, нібы няроўныя надмагільныя пліты, і навокал ні кусціка, ні дрэўца, ні травінкі. І далейшае знаёмства з горадам, з яго жыццём падмацавала гэтую думку, наша параўнанне. Горад Нью-Йорк — гэта сапраўдная заўчасная магіла для мільёнаў чалавечых душ. Няма ў ім нічога такога, што сведчыла-б аб клопатах пра чалавека, аб яго дабрабыце, аб яго шчасці. Галоўнае прызначэнне горада — рабіць бізнес, рабіць грошы. Гэтаму падпарадкавана ўсё: і недарэчныя небаскробы і вялізныя коміны фабрык і заводаў у непасрэдным суседстве са «скрабніцамі неба»; і сутарэнні шматлікіх банкаў, асабліва ў раёне Уол-стрыта; і прыбярэжныя вуліцы — авеню, з якіх чалавеку не ўбачыць блакітных прастораў рэк Гудзона і Іст-Рывера з-за награмаджэння пакгаузаў-пірсаў, складаў і гаражоў; і змрочныя шчыліны вуліц, над якімі хмарамі вісіць бензінавы перагар; і грукат элевейтэра — паветранай чыгункі, якая назаўсёды глушыць жыхароў другіх і трэціх паверхаў; і грукат сабвея—ньюйоркскага метро; і копаць і чад чыгунак, якія сыходзяцца пад зямлёй у цэнтральныя вакзалы горада; і незгасальныя — і ноччу і днём — рэкламныя агні Брадвея, які зігзагам перарэзвае горад з паўднёвага ўсходу да паўночнага захаду, на якім, здаецца, рэклама дасягнула свайго вар'яцкага апагею: яна тут і светавая, і дымавая, і гукавая, і рухомая; і жахлівыя трушчобы Істсайда, Гарлема, Квінса, дзе вы можаце сустрэць такую чалавечую галечу, якой не сустрэнеце нідзе ва ўсім свеце.

Адзінаццаць мільёнаў жыхароў горада — гэта нявольнікі долара, гэта людзі, з якіх выціскаецца пот і кроў, каб ператварыць іх у чыстае золата. Адзінаццаць мільёнаў сваёй цяжкай працай здабываюць грошы, але гэтыя грошы не дастаюцца ім. Гэтым людзям пакідаюць толькі невялікую частку здабыткаў іх працы, каб яны не памерлі з голаду, каб яны маглі ўсё-ж такі існаваць, жыць у цёмных катухах сутарэнняў, ці ў поўных грукату і стукату, копаці і бензінавага перагару кватэрах любых кварталаў горада. Львіная доля іх заработкаў, ператвораная ў золата, сцякаецца ў глыбокія нетры банкаў Уол-стрыта. Здабыткі іх працы трапляюць у бяздонныя кішэні рокфелераў, дзюпонаў, мелонаў, морганаў і іншых уладароў сучаснай Амерыкі, якія заграбаюць сваімі кастлявымі рукамі не толькі здабыткі амерыканскага народа, але багацці, здабыткі і іншых народаў свету. Мы прайшліся па вуліцы Уол-стрыт. Гэта вузкая невялікая вуліца ў адрозненне ад другіх вуліц горада наўздзіў малалюдная і маўклівая. Гэтую маўклівасць падкрэсліваюць панурыя сцены небаскробаў-банкаў. І каб не вышыня гэтых сцен, можна было-б сказаць, што перад вамі самая захалусная, самая пусцяковая вуліца. Але колькі прыкрасці людзям і ўсяму свету робіць гэтая паганая «вуліца ля сцяны», што азначаюць у перакладзе на нашу мову ненавісныя ўсім добрым людзям два словы — «Уол-стрыт».

Багацеі горада не жывуць у самім Нью-Йорку. У іх распараджэнні багатыя вілы і дачы ў гарадскіх ваколіцах і, галоўным чынам, у жывапісных мясцінах вострава Лонг-Айланд.

Але мы зноў адхіліліся ад тэмы. А параход тым часам ідзе па Гудзону, і якраз з правага барта яго відаць уся заходняя частка Манхеттэна, ад Уол-стрыта, ад Даун-тауна (ніжняга горада) і да самога Гарлема. Па беразе цягнуцца бясконцыя прыстані-пірсы: першы, другі... дзесяты... пяцідзесяты... дзевяносты... Уперадзе адзіны мост праз Гудзон, мост Георга Вашынгтона. Параход нібы ўздыхнуў, выпусціў рэшткі пары, спыніўся. Дзесяткі буксіраў, як мурашкі, замітусіліся ля яго няўклюднага корпуса, цягнуць, напінаюцца, падштурхоўваюць да прычала. Нашы пашпарты пасланцоў савецкіх народаў збаўляюць нас ад нудных роспытаў пра нашы душы і душы продкаў. Для ахоўнікаў амерыканскіх парадкаў хопіць даведак, што мы не маем ніякага дачынення ні да чумы, ні да халеры, ні да іншых трасц усяго свету. Апошнія фармальнасці — і мы на беразе.



**Амерыканскія фашысты — куклуксклanaўцы.**

Што-ж уяўляе сабой Нью-Йорк, гэты горад Жоўтага Д'ябла, як ахрысціў яго Максім Горкі.

Цэнтральная частка яго, асноўны раён — гэта востраў Манхеттэн, які працягнуўся кіламетраў пад трыццаць ад заліва на поўдні да рэчкі Гарлем на поўначы. З захаду яго амывае шырокая і шматводная рака Гудзон (на ёй адзіны мост і два тунелі пад вадой). З усходу востраў амывае рака Іст-Рывер (на ёй у межах горада каля сямі мастоў і два тунелі). За Гудзонам знаходзіцца адзін з раёнаў горада — Джэрсі. Астатнія раёны — Рычманд (за залівам, на поўдзень ад Манхеттэна), Бронск (на поўнач ад Манхеттэна), Квінс і Бруклін (на ўсход, за ракой Іст-Рывер). З поўдня на поўнач востраў Манхеттэн праразаюць каля пятнаццаці вуліц — авеню, а з усходу на захад ідуць каля двухсот пяцідзесяці меншых вуліц, так званых стрытаў. Файф-авеню (пятае авеню) падзяляе горад на заходнюю і ўсходнюю часткі. На адной і той-жа стрыт нумарацыя дамоў розная, у залежнасці ад таго, па якой частцы горада — заходняй ці ўсходняй — праходзіць вуліца.

Насельніцтва горада самае рознастайнае па сваёй нацыянальнасці. Кожная нацыянальная група жыве адасоблена, сваімі раёнамі, сваімі кварталамі. Тут вы сустрэнеце рускія, чэшскія, італьянскія, іспанскія, кітайскія, мексіканскія і іншыя раёны. Негры жывуць у Гарлеме, паўночнай частцы Манхеттэна. Гарлем — гэта своеасаблівае негрыцянскае гета, характэрнае страшэннай скучанасцю і беднасцю насельніцтва.

Большасць вуліц — і авеню і стрытаў — за выключэннем тых частак, якія размешчаны ў «арыстакратычных» кварталах, брудныя, засмечаныя. Небаскробы характэрны толькі для паўднёвай і цэнтральнай частак Манхеттэна. У астатняй частцы горада дамы звычайныя: і дзесяціпавярховыя, і трох- і двухпавярховыя, і ў адзін паверх. У Квінсе нам давялося пабыць у вялікім раёне, забудаваным скрозь аднапавярховымі дашчанымі баракамі і невялічкімі халупкамі, збітымі з фанеры, старой пражаўленай бляхі і дошчак з-пад тары. Фундаменты падобных шматлікіх будынін уяўляюць сабой не што іншае, як хліпкія слупкі, абцягнутыя звычайным толем. Тут вы не заўважыце ні аўтамашын, якімі так багаты вуліцы Манхеттэна, ні пышных магазінаў, ні найменшага намёку на зеляніну. Кучы смецця, бітай цэглы, канавы, сарваныя ветрам толевыя дахі, пабітыя вокны — вось характэрныя адзнакі гэтага своеасаблівага пейзажу, які выглядае вельмі ўбогім, сірочым на фоне недалёкіх, у двух-трох кіламетрах адсюль, небаскробаў. Варта спыніцца вашай машыне, і яе акружыць чародка дзяцей рознага ўзросту, рознай нацыянальнасці, але аднолькава галодных, раздзетых і разутых. І дзесяткі дзіцячых рук працягваюцца к вам. І на дзесятках моў да вас зварочваюцца са зразумелай просьбай — даць некалькі цэнтаў на хлеб. Ды ўжо спяшаецца да вашай машыны дужы паліцэйскі. Яму не да спадобы з'яўленне машыны ў гэтых мясцінах. Разбягаюцца, як стайка вераб'ёў,замурзаныя, абарваныя дзеці. Сурова пытаецца грозны ахоўнік парадку, чаму спыніўся кар. Шофер абыякава ківае на матор, корпаецца для прыліку якую секунду-другую пад капотам, запускае машыну. Машына ад'язджае, насуплены позірк ахоўніка парадку назойліва свярліць нумар машыны.

Гэты велізарны раён старанна замаскаваны ад староннягa вока. Ад асноўных вуліц Квінса ён агароджаны больш-менш людскімі дамамі ў два-тры паверхі. А колькі такіх раёнаў у гэтым горадзе, горадзе, які даўно забыўся пра жывыя чалавечыя душы, пра іх радасці і смутак, пра іх гора і шчасце, шчасце простага чалавека, чалавека працы.

Верай і праўдай служыць гэты горад залатому ненажэрнаму мяшку і ўсім тым, чые думкі і пачуцці сканцэнтраваны на Уолстрыце—«вуліцы ля сцяны», вуліцы **Жоўтага Д'ябла.**

# Маладыя таленты

Беларускае тэатральнае мастацтва — маладое. Аднак за тры дзесяцігоддзі свайго існавання беларуская совецкая сцэна выхавала многа выдатных актораў, якія атрымалі прызнанне ва ўсёй краіне.

Імёны народных артыстаў Саюза ССР Л. П. Александроўскай, Г. П. Глебава, П. С. Малчанава, Б. В. Платонава і многіх іншых акружаны любоўю гледача. Гэтая слаўная плеяда год ад году расце, папаўняючыся таленавітай моладдзю, у чым лёгка пераканацца, пабываўшы на любым спектаклі гэтага сезону.

... Велізарны партал сцэны Беларускага дзяржаўнага ордэна Леніна тэатра оперы і балета. Ідзе опера «Дзяўчына з Палесся». Нядаўні ўдзельнік армейскай мастацкай самадзейнасці, зараз заслужаны артыст рэспублікі Мікалай Ворвулеў паўстае перад гледачом у яркім вобразе комуніста, партызанскага кіраўніка Апанаса. Маладыя спявачкі Тамара Ніжнікава і Раіса Асіпенка натхнёна ствараюць высокародныя характары беларускіх дзяўчат-патрыётак. І пасля першага-ж акта ва ўзнагароду маладым выканаўцам у зале гучаць дружныя воплескі.

У гэты-ж час на другой сцэне, у драматычным тэатры імя Янкі Купалы, ідзе п'еса аб героях сённешніх дзён — «Зацікаўленая асоба». Маладая артыстка Лілія Драздова, чый талент ужо адзначаны Сталінскай прэміяй, выконвае ролю комсамолкі-стаханаўкі аўтамабільнага завода.

Вобраз Надзі стварае другая маладая артыстка Яўгенія Кавалёва. У гэтым-жа спектаклі радуюць сваім творчым ростам выхаванец Мінскага тэатральнага інстытута Георгій Галкін, а таксама Уладзімір Сярпкоў, які нядаўна прышоў на сцэну тэатра імя Янкі Купалы.

Творчая праца маладых сіл тэатра імя Якуба Коласа ў значнай ступені садзейнічае поспеху п'есы «Неспакойныя сэрцы». Гэта таксама спектакль аб сучасніках, аб вялікім комсамольскім калектыве трактарнага завода, аб яго кіпучых працоўных буднях. І тут удалымі творчымі знаходкамі вызначаецца ігра Галіны Арловай, Ірыны Мельдзюковай, Мацвея Федароўскага, Нікалая Яроменкі і іншых маладых удзельнікаў спектакля.

Калі спектакль «Неспакойныя сэрцы» паказваўся ў Мінску, самымі актыўнымі яго гледачамі была рабочая моладзь сталіцы. Прышла тады ў тэатр і токар Маруся Казлоўская са сваімі сяброўкамі-трактарабудаўнікамі.

— Добра, пераканаўча іграла ролю маладой работніцы завода артыстка Галіна Арлова, — дзялілася сваімі ўражаннямі Маруся. — Калі я глядзела на сцэну, мне ўвесь час здавалася, што я бачу то сябе, то каго-небудзь са сваіх сяброўак.

Маладыя акторы беларускіх тэатраў паспяхова праяўляюць сябе не толькі ў спектаклях на сучасную тэму. Яны выконваюць галоўныя ролі ў пастаноўках п'ес рускай і сусветнай класікі, у спектаклях аб замежным жыцці. Несумненная ўдача выпала на долю маладых артыстаў, якія заняты ў спектаклі «На досвітку» і добра перадаюць вобразы французскай дэмакратычнай моладзі.

... Нямала новых імён з'явілася ў апошні час сярод лепшых артыстаў рэспублікі. Знаёмячыся з творчасцю гэтай таленавітай моладзі, глядач радуецца, што наш тэатр у недалёкім будучым праславіцца новымі выдатнымі майстрамі сцэны.

**Ф. ІВАНОЎ.**



Т. Ніжнікава ў оперы «Дзяўчына з Палесся» (Беларускі дзяржаўны тэатр оперы і балета).

Фота Г. Бегуна і А. Дзітлава.



Лаўрэат Сталінскай прэміі Л. Драздова ў спектаклі «Зацікаўленая асоба» (Тэатр імя Янкі Купалы).



Заслужаны артыст БССР М. Ворвулеў у оперы «Дзяўчына з Палесся» (Беларускі дзяржаўны тэатр оперы і балета).



Г. Арлова ў спектаклі «Неспакойныя сэрцы» (Тэатр імя Якуба Коласа).




Уладзімір КОРБАН

Байка

Аднойчы птушнік быў наведан Гусаком.
Хто з гэтай птушкай не знаём,
Часамі й добрае падумаць можа:
Салідная персона як-ні-як! —
Не Грак,
Не Шпак, —
Гусак.
Магчыма й накрычыць, але-ж і дапаможа.
А ён і двор не абыйшоў амаль,
Нічога ў справах не падмеціў,
Запёрся ў Пеўня ў кабінеце,
Давай чытаць яму мараль
Гадзіну за гадзінай,
То ў холад акунаць яго, то ў жар.
Праз дзверы толькі й чуцен голас гусачыны:
«Го-го-го-го!» ды «Го-го-го!»
Чубатка-сакратар
На́т блізка да дзвярэй нікога не пускае.
Паўлін прынёс на подпіс каштарыс, —
Сядзіць, хвалюецца, чакае.
З рахункам Селезень нервуецца. У адчаі
З балансам Качка апусціла дзюбу ўніз.
Сыйшліся іншыя службовыя асобы, —
Пытанне ў гэтага, заява ў таго...
Зайсці-ж у кабінет ніхто не зробіць спробы,
Адтуль адно чуваць:
«Го-го-го-го!» ды «Го-го-го!»
А ў справах зрыў... І гэтак тыдзень цэлы.
Нарэшце рушыў з птушніка Гусак, —
З палёгкай уздыхнуў службовы кожны птах
І Певень,
ад мараляў абалдзелы.



# Кніжная паліца

## НАША ЛЮБІМАЯ КНІГА

У нашай краіне раман А. Фадзеева «Маладая гвардыя» выдадзены больш 50 разоў тыражом каля двух мільёнаў экзэмпляраў на шматлікіх нацыянальных мовах. Сюды трэба дадаць і выданне на беларускай мове, нядаўна ажыццёўленае Дзяржаўным выдавецтвам Беларусі.

Увага чытачоў да гэтага твора тлумачыцца перш за ўсё тым, што ён з першай да апошняй старонкі ўяўляе сабой цэльнае, глыбока ідэйнае і высокамастацкае апавяданне аб гераічным подзвігу савецкай моладзі, натхняемай і кіруемай Комуністычнай партыяй.




Раман прасякнуты светлай любоўю пісьменніка да сваіх герояў, якіх ён надзяліў высакароднымі рысамі чалавека сталінскай эпохі: гераічнай самаадданасцю, гатоўнасцю ісці на подзвігі ў імя перамогі справядлівай справы, у імя перамогі комунізма.

Абапіраючыся на жывую рэчаіснасць і на свой багаты жыццёвы і творчы вопыт, А. Фадзееў напісаў мастацкі твор вялікай жыццёвай праўды і паэтычнай прывабнасці. З любоўю, шчырай цеплынёй раскрыў пісьменнік багаты свет дум і пачуццяў, гарачы савецкі патрыятызм нашай моладзі.

Першапачатковы варыянт рамана «Маладая гвардыя» меў шэраг істотных недахопаў, якія зніжалі ідэйна-мастацкае значэнне гераічнай эпапеі, аслаблялі сілу ўздзеяння твора на чытача і змяншалі яго гісторыка-пазнавальнае значэнне. Не была паказана кіруючая роля партыі, якая арганізоўвае і накіроўвае ўсю барацьбу савецкага народа і выхоўвае моладзь у духу непрымірымасці да ворагаў Радзімы, у духу беззаветнага патрыятызма; неглыбока асэнсавана была сувязь партызанскай барацьбы супраць акупантаў з гераічнай барацьбой Савецкай Арміі на франтах; не заўважана была і не паказана пісьменнікам тая велізарная работа, якую партыя і савецкая ўлада праводзілі ў першыя дні вайны па арганізацыі эвакуацыі дзяцей, старых, абсталявання заводаў і грамадскага статку калгасаў у глыбокі савецкі тыл.

А. Фадзееў правільна ўспрыняў патрабаванні прынцыповай і творчай крытыкі. З выключнай стараннасцю і майстэрствам, стаўшы на шлях творчага, а не механічнага вырашэння складанай мастацкай задачы, пісьменнік увёў у твор новых герояў, новыя лініі, беражліва захаваўшы ранейшую тканіну рамана.

І ў першым варыянце рамана была цэлая галерэя партыйцаў-падпольшчыкаў — Працэнка, Люцікаў, Шульга, Валько. Але там яны былі героямі асобных эпізодаў. У новым выданні рамана комуністы-падпольшчыкі становяцца галоўнымі героямі. Праз вобраз Працэнкі — сакратара-абкома партыі — чытач даведваецца пра ўсю шырокаразгалінаваную сетку падпольных партыйных арганізацый, якімі кіравалі гэты моцны духам комуніст.

Раней Фадзееў толькі мімаходзь упамінаў пра сакратара падпольнага райкома партыі ў Краснадоне, старога кадравага рабочага Люцікава. Цяпер-жа пісьменнік раскрыў гэты вобраз поўна і ўсебакова. Люцікаў — чалавек моцнай волі, вялікай сціпласці і непахіснай стойкасці. Пад яго ўплывам і непасрэдным кіраўніцтвам працуюць Алег Кашавы і ўся краснадонская моладзь.

Вобраз другога сакратара падпольнага райкома — комуніста інжынера Баракава, якога не было ў першым варыянце, яшчэ больш падкрэслівае кіруючую ролю Комуністычнай партыі.

Тое, што галерэя галоўных герояў рамана некалькі папоўнілася і што пісьменнік шмат увагі аддаў абмалёўцы вобразаў комуністаў-падпольшчыкаў, нікольк не знізіла ролі маладагвардзейцаў. Наадварот, зніклі рысы заўчаснай і неабгрунтаванай сталасці Алега Кашавога. Ён застаўся такім, якім яго палюбіў чытач: светлым, з паэтычнай душой, сур'ёзным, з выключным пачуццём адказнасці перад жыццём, па-дзіцячаму шчырым, наіўным, пяшчотным. Алег застаўся такім-жа мужным і стойкім, смелым і храбрым, палымяным патрыётам, але ён стаў выглядаць маладзей, працей і больш пераканаўча, бо побач з ім узніклі на старонках рамана вобразы сталых і вопытных, умелых і сур'ёзных партыйных кіраўнікоў.

Працуючы нанова над раманам, А. Фадзееў не толькі ўключыў маладзёжную арганізацыю ў агульную сістэму арганізаванай Комуністычнай партыяй барацьбы, але і сама гэтая падпольная барацьба паказана як неадлучная частка ўсенароднай барацьбы ў Вялікай Айчыннай вайне. Даволі поўна паказаны пісьменнікам тыя ніці, якія звязвалі краснадонскае падполле з Дзеючай арміяй, паказана тое, як падзеі на франтах рабілі рашаючы ўплыў на дзейнасць падполля. Магутным фактарам, які ўплываў на розумы і сэрцы людзей, падзесяцяраў іх духоўныя сілы, паказана ў рамане гістарычная бітва пад Сталінградам, сіла партызанскага руху ў Данбасе, сувязі партызан з падпольшчыкамі Краснадона.

Праўдзівы паказ кіруючай, арганізуючай ролі партыі вызначыў і праўдзівы паказ таго, як у адпа-

А. ФАДЗЕЕЎ, «Маладая гвардыя». Дапоўненае і перапрацаванае выданне. Пераклад М. Лужаніна. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1953.

веднасці з дакладным, загадзя прадуманым планам адбывалася эвакуацыя насельніцтва, часовае адступленне совецкіх войск.

Паказваючы комуністаў і маладагвардзейцаў, Фадзееў раскрывае новае разуменне прыгожага і ў самаадданай барацьбе герояў, і ў іх адносінах паміж сабой, і ў іх духоўным вобліку, у душэўнай яснасці і свежасці, у акрылёнасці ўсведамленнем непарушнай сувязі з Радзімай, партыяй, народам.

«Маладая гвардыя» — гэта твор аб маральным абліччы совецкага чалавека, аб яго перавагах над чалавекам буржуазнага свету. Подзвіг комуністаў і комсамольцаў невялікага гарадка ў Данбасе паўстае перад чытачом як праяўленне высокай ідэйнасці, гераізма, духоўнага багацця, любві да Радзімы — тых якасцей, якія характэрны для ўсіх людзей совецкай краіны.

Выданне рамана «Маладая гвардыя» на беларускай мове ў добрым перакладзе М. Лужаніна — з'ява вялікага палітычнага і мастацкага значэння.

Малады чытач атрымаў магчымасць пазнаёміцца на роднай мове з таленавітым раманам А. Фадзеева — выдатным дасягненнем пасляваеннай совецкай літаратуры, кнігай, якую так горача любіць наша моладзь.

**УЛ. ЮРЭВІЧ.**

# „МОЛОДАЯ БЕЛАРУСЬ"

Беларуская паэзія, якая дасягнула свайго сапраўднага росквіту ў гады паспяховага будаўніцтва комунізма ў нашай краіне, — яркая і своеасаблівая. Творы лепшых яе майстроў даўно сталі здабыткам шырокіх мас совецкіх чытачоў. Аб наяўнасці і росце свежых маладых сіл у беларускай паэзіі сведчыць зборнік «Молодая Беларусь», які нядаўна вышаў у перакладзе на рускую мову.

Песні сонечнага свету — так можна назваць гэты зборнік. Чытаючы яго, зноў і зноў бачыш той прасторны і сонечны свет, у якім жыве совецкая моладзь, моладзь Совецкай Беларусі. Зборнік праўдзіва адлюстроўвае думкі і спадзяванні нашай моладзі, глыбока адданай Радзіме, справе партыі Леніна — Сталіна, праўдзіва пера-




дае шырыню далягляду маладых будаўнікоў комунізма, шырыню іх інтарэсаў. Велічны свет, у якім яны жывуць. Маладыя паэты першае слова любві і адданасці прысвячаюць будаўнікам гэтага свету — вялікім правадырам працоўных Леніну і Сталіну, роднай Комуністычнай партыі.

Вялікаму Леніну — стваральніку нашай партыі і дзяржавы — прысвечаны вершы «На Краснай плошчы» К. Кірэенкі, «Успаміны дзяцінства» А. Бачылы. Аб шчырай любві совецкіх людзей і працоўных усяго свету да вялікага Сталіна, аб велічы яго палкаводчага і дзяржаўнага генія, аб яго натхняючай ролі ў барацьбе за мір усхвалявана гавораць вершы А. Вялюгіна, М. Калачынскага, П. Прыходзькі, С. Гаўрусёва, М. Засіма і іншых паэтаў.

У вершы «Гарыйская вясна» М. Калачынскі цёпла і пранікнёна піша аб маленькім доміку ў Горы, адкуль пачаўся жыццёвы шлях нашага вялікага правадыра:

**Отсюда,**
**За этот порог,**
**Из домика с низенькой крышей,**
**В мир, полный борьбы и тревог,**
**Бесстрашно и смело он вышел.**

(Пераклад А. Пракоф'ева.)

У вершы «На плошчах Прагі» Р. Няхай гаворыць аб незабыўных днях гістарычных перамог Совецкай Арміі — вызваліцельніцы, дасягнутых пад вадзіцельствам І. В. Сталіна:

**Гвардейцы Сталина прошли**
**По площадям свободной Праги.**
**Толпа шумела, и цвели**
**Повсюду праздничные флаги.**
**И люди спрашивали их,**
**Солдат, чьё сердце твёрже стали:**
**— Кто вёл в путях вас боевых?**
**Гвардейцы отвечали:**
**Сталин!**

(Пераклад П. Кабзарэўскага.)

Да сталіцы нашай Радзімы — Масквы, што сімвалізуе несакрушальную магутнасць Совецкай дзяржавы, накіраваны позіркі ўсяго працоўнага чалавецтва, якое ведае, што Масква — гэта мір і дружба народаў. Аб гэтым добра сказана ў вершы А. Русецкага «Натхненне»:

**Отмечен будет мирный день труда**
**На Спасской башне стрелкой золотою,—**
**Горит Москвы лучистая звезда,**
**Как вечный символ счастья над землёю.**

(Пераклад А. Астроўскага.)

Дружба народаў Совецкай краіны з'яўляецца зарукай далейшага росту сілы і магутнасці соцыялістычнай Радзімы. Аб гэтай навекі непарушнай дружбе расказваецца ў многіх вершах зборніка. Аб дружбе з вялікім рускім народам піша П. Прыходзька ў вершы «Расія»; «Адной Айчыны дзеці...» — піша аб совецкіх людзях М. Калачынскі ў вершы «Пабрацімы». Аб тым, што маладое пакаленне з першых дзён свайго свядомага жыцця выхавана ў духу сталінскай дружбы народаў, гаворыць у вершы «Караблі» К. Кірэенка:

**Наверно, с таким уж понятьем росли мы**
**И чуяли с первой весны,**
**Что не одной Беларуси родимой,**
**А всей мы Отчизны сыны.**

(Пераклад Д. Кавалёва.)

Аб інтэрнацыянальнай салідарнасці, аб дружбе народаў Совецкага Саюза і Кітая пішуць А. Вялюгін у вершы «У свабодным Пекіне» і А. Русецкі ў вершы «Нашым сябрам». П. Прыходзька ў вершы «Карэйскаму салдату» выказвае пачуццё глыбокай салідарнасці совецкіх людзей з карэйскім народам, які змагаецца супраць амерыкана-англійскіх захопнікаў.

Нямала таленавітых вершаў зборніка прысвечана подзвігам совецкіх воінаў у Вялікай Айчыннай вайне: «Песня пра капітана Гастэла» М. Аўрамчыка, мужныя вершы «Чырвоная зорка» і «Прысяга ў акопах» М. Сурначова, які загінуў у баях пад Берлінам, «На раз'ездзе Вярхуціна» П. Прыходзькі, «Ля берагоў Цусімы» А. Русецкага і іншыя.

**Как метеор, бросая яркий свет,**
**Ты пролетел,**
**И подвиг благородный**
**Глубокий на века оставил след,**
**Неизгладимый в памяти народной.**

(Пераклад А. Пракоф'ева.)

Так заканчвае свой верш пра подзвіг Гастэла М. Аўрамчык.

Аб мірнай пасляваеннай працы совецкіх людзей, аб сталінскіх будоўлях комунізма, аб укладзе працоўных Беларусі ў справу выканання геніяльных сталінскіх планаў усхвалявана расказвае «Песня пра Туркменскі канал» С. Дзяргая, «Вялікі мой і ціхі акіян» Р. Няхая, «Песня нашага раёна» М. Калачынскага і іншыя. Аб велізарных соцыялістычных пераўтварэннях, якія здзейснены ў рэспубліцы за гады сталінскіх пяцігодак, аб тым, як непазнавальна змяніўся воблік краіны, з хваляваннем і гонарам кажа К. Кірэенка ў вершы «Мая рэспубліка»:

**Не зовите мою республику**
**Страною тёмных лесов!**
**Посмотрите, —**
**Над нею светятся**
**Огни заводских корпусов.**
**Не зовите мою республику**
**Страною тихих долин!**
**Послушайте,**
**Как поют над ней**
**Голоса могучих турбин.**

(Пераклад Д. Кавалёва.)

Нямала вершаў прысвячаюць маладыя паэты самаадданай барацьбе народаў за мір (верш пра Юліуса Фучыка — «Вяршыня на Алтаі» А. Вялюгіна і яго-ж гнеўны верш «Надпісы на сценах рэйхстага», «Назым Хікмет» А. Астапенкі і інш.), Совецкай Арміі, якая стаіць на варце міру («У паходзе», «Легендарныя людзі» М. Калачынскага і інш.).

Правільная ідэйная накіраванасць зборніка, вялікае ўражанне, якое пакідаюць многія вершы, пераконваюць у тым, што за апошнія гады з асяроддзя беларускай моладзі вырас атрад таленавітых паэтаў.

**А. ЧЫВІЛІХІН.**

---

«МОЛОДАЯ БЕЛАРУСЬ», зборнік вершаў маладых беларускіх паэтаў. Выдавецтва «Молодая гвардия», 1952.

# КАШТОЎНЫ ВОПЫТ НАВАТАРАЎ

Сталінская эпоха вызначаецца небывалым ростам актыўнасці рабочых, іх імкненнем няспынна павышаць прадукцыйнасць працы, унесці свой уклад у справу будаўніцтва комунізма.

За мінулы год «Бібліятэчка стаханаўца», якая выпускаецца Дзяржаўным выдавецтвам БССР, папоўнілася новымі брашурамі, у якіх перадавікі вытворчасці расказваюць аб сваіх дасягненнях, дзеляцца набытым вопытам работы.

Цікавая па свайму зместу брашура знатнага стаханаўца Мінскага трактарнага завода М. Антоніка «Мае парады электразваршчыкам». За час сваёй работы ў цэху металаканструкцый завода М. Антонік дабіўся значнага павышэння прадукцыйнасці і палепшання якасці электразваркі. Наватар нястомна вышуквае новыя шляхі ўдасканалення метадаў і павышэння культуры працы.

Электразварка з'яўляецца вялікім вынаходніцтвам вучоных нашай краіны. Самую з'яву электрычнай дугі і магчымасць выкарыстання яе цеплавой энергіі для расплаўлення металаў упершыню адкрыў больш 150 год назад рускі вучоны Васілій Пятроў. Шматлікія ўдасканаленні, праведзеныя з таго часу ў гэтай галіне, не змянілі самой сутнасці працэсу. Значна вырасла зварачная тэхніка за гады сталінскіх пяцігодак. Па аб'ёму і разнастайнасці зваркі наша краіна займае першае месца ў свеце.

У сваёй брашуры М. Антонік расказвае аб новых метадах электразваркі, якія прымяняюцца на Мінскім трактарным заводзе. Яшчэ ў 1946 годзе стаханавец пачаў працаваць на павышаных сілах току. Вынікі аказаліся станоўчыя. Працэс працякаў значна хутчэй, чым пры нармальных сілах току, а якасць была высокай. Праз некаторы час М. Антонік пачаў ужываць яшчэ больш дасканалыя метады працы — зварку ультракароткай дугой, ці, інакш кажучы, скарасную электразварку.

Аўтар дэталёва апісвае ўвесь ход тэхналагічнага працэсу, раіць, якія лепш прымяняць прыёмы працы, электроды. Мовай лічбаў наватар вытворчасці даказвае каштоўнасць прымянення новага метада.

М. Антонік таксама падрабязна расказвае аб перавагах правядзення зваркі пучком электродаў і адначасова двума электрадатрымальнікамі, аб канструкцыі зробленага ім электрадатрымальніка.

Значнае месца ў брашуры адведзена пытанню правільнай арганізацыі працы. М. Антонік пераканаўча паказвае, якое значэнне мае акуратнасць і ўважлівасць у барацьбе за павышэнне прадукцыйнасці працы.

Электразварачныя работы ўсё шырэй прымяняюцца на прадпрыемствах і будоўлях нашай краіны. Таму вельмі важна, каб маладыя рабочыя хутчэй авалодалі перадавымі прыёмамі зваркі. За кароткі тэрмін М. Антонік навучыў спецыяльнасці электразваршчыка больш 100 маладых рабочых.

Многія вучні М. Антоніка праславіліся ўжо стаханаўскай працай і карыстаюцца заслужаным аўтарытэтам сярод калектыва трактарнага завода.

Шмат каштоўных парад знойдуць маладыя будаўнікі ў брашуры брыгадзіра тынкоўшчыкаў трэста № 2 «Галоўмінскбуда» І. Нікалаева «Па метаду Івана Куцянкова». Грандыёзнае будаўніцтва вядзецца ў сталіцы нашай рэспублікі — Мінску. Хутка вырастаюць шматпавярховыя прыгажуны-дамы, будынкі школ, тэатраў, клубаў, навучальных устаноў. Як механізаваць, паскорыць, удасканаліць працэс работы? Адказ на гэтае пытанне штодзённа даюць сваімі рацыяналізатарскімі прапановамі дзесяткі рабочых на будоўлях горада. На працягу многіх гадоў аднаўленцы Мінска спаборнічаюць з будаўнікамі горада-героя Сталінграда і сталіцы нашай Радзімы — Масквы, абменьваюцца паміж сабой перадавым вопытам.

Да апошняга часу на будаўніцтвах найбольш працаёмкім з'яўляўся працэс тынкоўкі. Але вось па краіне разнеслася вестка аб выдатным пачыне маскоўскага будаўніка Івана Куцянкова, які пачаў праводзіць тынкавальныя работы паточна-расчлянёным механізаваным метадам. Летам 1949 года наватар прыехаў у Мінск і на многіх будоўлях горада прадэманстраваў свой метад тынкоўкі, азнаёміў будаўнікоў Мінска з новым інструментам, спосабам механізацыі.

Гарачым паслядоўнікам Івана Куцянкова стаў мінскі тынкоўшчык Іван Нікалаеў. Ён арганізаваў маладзёжную брыгаду, якая пачала працаваць па метаду маскоўскага наватара.

Аб вопыце работы гэтай брыгады і расказвае ў сваёй брашуры І. Нікалаеў. Праз некалькі месяцаў пасля пераходу на паточна-расчлянёны метад зменная выпрацоўка брыгады з 4 квадратных метраў на чалавека вырасла да 13—14, а потым і да 15—16 квадратных метраў.

Брашура І. Нікалаева дае магчымасць маладым будаўнікам падрабязна азнаёміцца як з метадам Івана Куцянкова, так і з тым новым, што даў мінскі тынкоўшчык-наватар. На старонках брашуры змешчаны таксама чарцяжы стаханаўскага інструменту, якім карыстаецца маладзёжная брыгада Івана Нікалаева.

**С. САДОУСКАЯ.**

---

М. Т. АНТОНІК. Мае парады электразваршчыкам. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1952.

І. Д. НІКАЛАЕЎ. Па метаду Івана Куцянкова. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1952.



# На паўночных азёрах

Наша рэспубліка багата азёрамі. Асабліва шмат вялікіх і малых азёр на поўначы Беларусі. Вакол іх шумяць гонкія, меднаствольныя сосны, радуюць вока жоўтыя пясчаныя берагі, высокія чароты, празрыстая вада. Шмат багацця хаваюць нашы азёры. Тут ёсць прастор для рыбалова і паляўнічага. Дзікія качкі і гусі гняздзяцца ў прыазёрных зарасніках. Водзіцца рознастайная рыба, нават такая рэдкая, як вугар і фарэль. Але бадай што самым каштоўным багаццем азёр з'яўляецца водная энергія. Савецкія людзі, узброеныя перадавой тэхнікай, навучыліся ўмела выкарыстоўваць яе. Побач з вялікімі новабудоўлямі на Волзе, Дняпры, Каме і Іртышы, у нас усюды ўваходзяць у строй больш дробныя электрастанцыі.

Адна з такіх гідраэлектрастанцый будуецца ў Полацкай вобласці на возеры Дрысвяты, якое ляжыць на граніцы трох братніх рэспублік—Беларускай, Літоўскай і Латвійскай. Беларускі калгас імя Молатава, літоўскі — імя Адама Міцкевіча і латышскі — імя Свердлова будуюць тут электрастанцыю, якую савецкія людзі любоўна назвалі «Дружба народаў». Яна з'яўляецца сапраўдным увасабленнем вялікай сталінскай дружбы народаў.

Аднолькава цяжка жылося калісьці на берагах возера Дрысвяты і працоўнаму беларусу, і працоўнаму літоўцу, і працоўнаму латышу. Азёры, лясы, лугі і лепшыя землі належалі багацеям. На долю беднаты выпадалі вузкія камяністыя палоскі, на якіх найлепш радзіла гірса ды мятліца... Шмат гора тут зазналі людзі, шмат слёз пралілі. Нездарма яшчэ і да гэтага часу пра возера Дрысвяты бытуе ў народзе такая легенда. У старажытныя часы яно, як быццам, не было такім вялікім і глыбокім. Але бедны люд на яго берагах плакаў так многа, што ад слёз возера пачало паўнець і пашырацца, а вада ў ім стала больш празрыстай, салёнай...

«Памятаю, як адзін літовец, стары Марцуліс, увесь дзень круцячы ручны млын і размолваючы збожжа, спяваў адну і тую-ж цягучую песню млынара, падобную да шуму жорнаў. Ноччу я прыслухаўся да песні старога начнога вартаўніка беларуса Надзеўскага, якая напамінала плач асенняга ветру...» — так пісаў у сваім дзённіку вядомы латышскі паэт-дэмакрат Ян Райніс, якому ў дарэвалюцыйныя гады прышлося жыць у гэтай мясцовасці.

Загляньце цяпер на возера Дрысвяты. Шчаслівае, сталінскае сонца асвяціла гэты край. Узнімаюцца прасторныя дамы, клубы і школы, бібліятэкі і хаты-чытальні. Ад вёскі Дрысвяты ў калгасныя вёскі трох братніх рэспублік ідуць новыя лініі электраперадач. У грамадскіх будынках, у дамах калгаснікаў робіцца электраправодка. Людзі чакаюць вялікага свята — пуску міжкалгаснай гідраэлектрастанцыі. Яны набываюць радыёпрыёмнікі, электрапрыборы, рыхтуюцца да выкарыстання электрычнасці на сельскагаспадарчых работах. Ні зімой ні летам не спыняюцца работы на будаўніцтве электрастанцыі «Дружба народаў». Побач з беларусамі працуюць літоўцы, латышы, рускія. Калгасная моладзь набывае новыя спецыяльнасці — каменшчыкаў, электраманцёраў, трактарыстаў. Яшчэ толькі ў чэрвені мінулага года распачалося будаўніцтва, а ўжо гатова плаціна, заканчваецца будынак электрастанцыі, новыя, удасканаленыя турбіны гатовы ўступіць у строй. Рабочыя Масквы, Ленінграда, Рыгі, Мінска і Вільнюса прыслалі будаўнікам самую навейшую тэхніку; вучоныя братніх рэспублік аказалі ім дапамогу. Трактары і грузавікі прывозяць у Дрысвяты цэмент, лес, цэглу і іншыя будаўнічыя матэрыялы. Кожны дзень тут звіняць радасныя песні на рускай, беларускай, літоўскай, латышскай мовах. Народ ад усёй душы славіць родную Камуністычную партыю, савецкую Радзіму, вялікага Сталіна — творца народнага шчасця.

Возера Дрысвяты прыгожае ў любую пару года. Празрыстая вада, густыя чароты, стромкія лясы, маладыя сады на берагах любы сэрцу савецкага чалавека. А хутка гэты цудоўны пейзаж заззяе электрычнымі агнямі, агнямі неўміручай, сталінскай дружбы народаў. Радасна запрашаюць да сябе гасцей калгаснікі — і літоўцы, і беларусы, і латышы. У іхнія хаты прышло заможнае жыццё. На шырокіх калгасных палях працуюць машыны, у клубах звіняць песні аб натхнёнай працы савецкіх людзей, якая робіць нашу родную прыроду яшчэ больш прыгожай.

**Рыгор НЯХАЙ.**

На здымках: уверсе — **Лясное возера на Полаччыне;** унізе — **Так будзе выглядаць гідрастанцыя «Дружба народаў».**

Фота В. Лупейкі (БЕЛТА).



# Шлях адважных

Група маладых людзей ланцужком уздымаецца на гару. Дзяўчаты і юнакі лёгка апрануты, у кожнага за плячыма рукзак, у руках завостраны кій. Чым вышэй уздымаюцца яны, тым шырэй відаць наўкол, усё новыя і новыя малюнкі разгортваюцца перад іх вачыма. А ўнізе густазялёныя лясы засланяе лёгкая смуга.

— Эй, што гэта? Туман?..

— Не! Гэта хмаркі плывуць ад мора, — адгукаецца на пытанне юнак, які ідзе ўперадзе.

— Мы вышэй воблакаў?

— Вышэй.

— Дык давайце разгледзім усё падрабязна! Гэта-ж першы раз у жыцці: **не воблакі нада мной, а я над воблакамі!..**

Адпачынак. Хтосьці запявае песню. Усе падхопліваюць. Над далінамі Каўказа плывуць песні аб чырвонай каліне, аб партызанскіх зямлянках, аб дарагой Маскве, аб Радзіме...

Гэта група студэнтаў Мінскага медыцынскага інстытута робіць падарожжа па раёну Ваенна-Сухумскай дарогі.

Вось ужо тры гады, як у інстытуце пры добраахвотным спартыўным таварыстве «Медык» існуе секцыя альпінізма і турызма. Дзе толькі не пабывалі медыкі-турысты! Пехатой, на веласіпедах, на лыжах рабілі яны паходы па Беларусі. Пераадольванне вялікіх адлегласцей, начлегі пад адкрытым небам, часта ў непагоду, спрыялі фізічнай загартоўцы. Студэнты здавалі турысцкія спартыўныя нормы, заваёўваючы правы на ўдзел у новых, значна больш цяжкіх, а таму і яшчэ больш захапляючых паходах.



**...У адным з зімовых трэніровачных паходаў. Э. Луцэвіч і І. Захарава пераадольваюць вельмі заснежаны схіл.**

У велізарную армію савецкіх альпіністаў уліўся першы беларускі атрад. Яго арганізатар, студэнт чацвертага курса Эмануіл Луцэвіч, які да паступлення ў мед-інстытут закончыў інстытут фізічнай культуры, прывіў моладзі любоў да гэтага цудоўнага віду спорту. Старэйшыя ўдзельнікі секцыі — Іна Захарава, Віталі Казачонак, Алесь Міклевіч і іншыя — у сваю чаргу ўжо арганізоўваюць новыя групы ахвотнікаў падарожжаў.

Зімовыя канікулы былі выкарыстаны для паходаў па Мінскай вобласці. А наперадзе — лета!

Наперадзе — лодкі на рэках Палесся, сцежкі сярод леднікоў Каўказа. Наперадзе — шумлівыя сустрэчы з новымі сябрамі на турысцкіх базах, шырокія магчымасці для самага блізкага знаёмства з рознастайнымі куткамі нашай вялікай Радзімы.

**А. ДЗІТЛАЎ**

# Па спартыўных залах сталіцы

отанарыс В. Гундорына.

Пройдземся па спартыўных залах Мінска.

Куды-б мы ні заглянулі, усюды бачым кіпучае спартыўнае жыццё.

У басейне Акруговага Дома афіцэраў трэніруюцца плаўцы. Сюды разам са спартсменамі, якія не раз абнаўлялі рэспубліканскія рэкорды, прыходзіць моладзь, каб навучыцца плаваць і здаць нормы на значок ГПА.

Вось на стартавую тумбачку становіцца неаднаразовая чэмпіёнка і рэкардсменка рэспублікі па плаванню вольным стылем на дыстанцыю 100 і 200 метраў Дзіна Варабій. Сігнал трэнера — і спартсменка ў вадзе. Яна хутка плыве па дарожцы. (Здымак № 1.) Дваццаць пяць метраў пройдзена за 14,5 секунды.

У спартыўнай зале таварыства «Праца» адбываюцца заняткі секцыі цяжкай атлетыкі. На штанзе вага 150 кілаграмаў. Практыкаванне са штангай выконвае рэкардсмен і чэмпіён рэспублікі і Цэнтральнага савета таварыства «Праца» Генадзій Шляс. (Здымак № 2.) У секцыі цяжкай атлетыкі займаецца больш за сорак чалавек. Тры гады каманда «Праца» займае першае месца ў горадзе і пяць год — першае месца ў спаборніцтвах на першынства Цэнтральнага совета таварыства «Праца».

Побач з вядучымі спартсменамі секцыю наведваюць рабочыя прадпрыемстваў сталіцы. Іх імёны яшчэ невядомыя спартыўнай грамадскасці, але пройдзе некалькі часу, шэраг упартых трэніровак — і мы пачуем аб іх.

У спартыўным клубе Акруговага Дома афіцэраў праходзяць заняткі зборнай каманды рэспублікі па гімнастыцы. Адшліфоўваючы кожны рух, імкнучыся выконваць нумары як мага дакладней, трэніруецца майстар спорту А. Сцяпанчанка. (Здымак № 3.)

Лёгка і прыгожа выконвае адно з самых складаных практыкаванняў на кольцах майстар спорту В. Яненка. (Здымак № 4.)

Круглы год не спыняюць трэніровак веласіпедысты спартыўнага таварыства «Праца» — летам на кросавых дыстанцыях і на шасейных дарогах, зімой на станках, абсталяваных самімі-ж спартсменамі. (Здымак № 5.) Тры чалавекі з гэтай секцыі — вядомы гоншчык рэспублікі Віктар Лі-Фу, электрык завода імя Молатава Барыс Якутовіч і шліфоўшчык інструментальнага завода Аляксандр Бяляўскі ў мінулым годзе выканалі норму майстра спорту.

Так з дня ў дзень трэніруюцца і павышаюць сваё майстэрства спартсмены горада Мінска. Мужнее і загартоўваецца маладосць!


4


3


2


5


1

## МІНСК—НІКАЛАЕЎ



На здымках: злева — **У яхт-клубе. (Фотаздымак, атрыманы з Нікалаева.)**; справа — **На рацэ Беразіне. (Фотаздымак, пасланы украінскім сябрам з Мінска.)**

Аднойчы Мінск наведала некалькі работнікаў дзіцячай тэхнічнай станцыі горада Нікалаева Украінскай ССР. Пабываўшы ў Палацы піянераў, госці зацікавіліся работай фотагуртка, у якім паспяхова займаецца вялікая група камсамольцаў — вучняў старэйшых класаў.

Галіна Прышчэпава і Жана Пушкарчук паказалі гасцям свае каляровыя фотаздымкі, Леанід Туравец, Яўген Ярашэвіч і іншыя гурткоўцы пазнаёмілі іх з вялікай выстаўкай, створанай у час турысцкіх паходаў па роднаму краю.

Гасцям асабліва спадабаліся пейзажы Беларусі. Мінскія гурткоўцы рашылі падараваць сваім новым знаёмым серыю фотаздымкаў маляўнічых куткоў нашай рэспублікі.

Прайшло зусім нямнога часу — і з Нікалаева ў Мінск прышоў тоўсты пакет: украінскія камсамольцы прыслалі сябрам свой падарунак. У пісьме яны падрабязна расказвалі, як складаюць фотагербарыі, як займаюцца мікрафатаграфіяй.

— Зараз, — гаворыць выкладчык фотасправы І. Ф. Брэйво, — мы пашлем нашым сябрам у Нікалаеў другую серыю здымкаў — аб аднаўленні беларускай сталіцы.



Так пасябравалі два юнацкія калектывы фотааматараў.

**А. СЯРГЕЕЎ.**

## СУСТРЭЧА ШАСЦІ ГАРАДОЎ



**У вялікіх спартыўных залах Брэсцкага Дома фізічнай культуры адбыўся розыгрыш першынства шасці гарадоў Беларусі па валейболу і баскетболу.**

**У складзе каманд, у параўнанні з мінулым годам, адбыліся значныя змены: уведзена многа маладых ігракоў. Усе яны паказалі значна ўзрослую тэхніку ігры, настойлівасць у заваяванні перамогі. Асабліва прыкметны спартыўны рост каманд Гомеля і Баранавіч.**

**Найбольш цікавай была сустрэча валейбалістаў Бабруйска з маладой камандай Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Абедзве каманды вялі імклівую ігру на выйгрыш. Сустрэча складалася з пяці партый і прадаўжалася 1 гадзіну 52 мінуты. З вельмі нязначнай перавагай перамаглі спартсмены Бабруйска.**

На здымку — **Капітаны каманд горада Мінска, якія атрымалі пераходныя прызы.** Злева направа: **А. Іванавіцкі, В. Папова, В. Колесава і Е. Захараў.**

**В. ГЕРМАН.**

## КРАСВОРД

**Па гарызанталі:** 1. Партрэт, напісаны з сябе самога. 3. Перыяд, на працягу якога ажыццяўляецца якая-небудзь дзейнасць, гаспадарчая кампанія. 4. Нормы паводзін. 6. Спецыяліст па земляробству. 10. Рака ў БССР. 11. Рака ў Сібіры. 13. Горад у РСФСР. 14. Летуценне. 15. Каштоўны камень. 16. Лепшыя, адборныя экземпляры раслін. 20. Лес з дарожкамі для гуляння. 21. Мерапрыемства, якое мае на мэце стварыць шырокую вядомасць чаму-небудзь. 23. Рыба. 25. Паўночная частка зямнога шара. 26. Беларускі грамадскі дзеяч XVI стагоддзя. 27. Кармавая рэпа. 29. Супрацьгрыпозны сродак. 33. Рак. 35. Медыцынскі работнік. 36. Пастанова вярхоўнага органа ўлады. 38. Жалезабетоннае збудаванне, якое служыць для пераходу паяздоў метрапалітэна з паверхні зямлі пад зямлю. 40. Тоўстае сукно. 42. Частка цела. 44. Літаратурны твор у вершах або прозе. 48. Вялікі празаічны твор. 49. Сугучча канцоў вершаваных радкоў. 50. Перапынак. 51. Частка ў электраматоры, якая верціцца. 52. Тканіна. 53. Тэхніка раслінаводства.

**Па вертыкалі:** 1. Рэгулятар маятніка ў гадзінніку. 2. Памяшканне, у якім ставяцца спектаклі. 3. Музычны твор з некалькіх п'ес рознага характару. 5. Гатунак яблыкаў. 6. Архітэктурнае збудаванне. 7. Тлумачэнне аўтара да тэкста п'есы. 8. Чалавек, які ўносіць новае ў якую-небудзь работу. 9. Зброя. 10. Род літаратурнага твора, прызначанага для выканання на сцэне. 12 Прафесія. 13. Прыбор для кандэнсацыі электрычнасці. 17. Абеззаражванне ран пры гнойнай інфекцыі. 18. Марская драпежная рыба. 19. Прыстасаванне для ўтрымання судна на месцы. 20. Чалавек, які мае вялікі вопыт у сваёй спецыяльнасці. 21. Тэкст, напісаны ад рукі. 22. Ансамбль музычных інструментаў. 24. Прадсказанне. 28. Прастора над зямлёй. 30. Бухгалтарскі тэрмін. 31. Трохскладовая вершаваная стапа з націскам на апошнім складзе. 34. Труба, якая служыць для ўзмацнення гуку. 37. Горад у Крыму. 39. Чалавек, які напісаў твор. 41. Пашкоджанае месца цела. 43. Сплаў свінца, волава і сурмы. 45. Мадэль. 46. Вялікае дажджавое воблака. 47. Аб'ява.








**Адказны рэдактар — Аляксей КУЛАКОЎСКІ.**

**Рэдакцыйная калегія: Я. БРЫЛЬ (нам. адказн. рэдактара), Юрый ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Вадзім ПОЗНЯК, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК.**

**«Молодость»**
На белорусском языке.

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

Газетна-журнальнае выдавецтва Белпаліграфвыдавецтва, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Адрас рэдакцыі: Падгорны зав., 2. Тэлефоны: адказнага рэдактара — 93-634, аддзела ілюстрацый — 93-985.

АТ 03938. Здадзена ў набор 24.III.1953 г. Падпісана да друку 16/IV-53 г. Фармат паперы 70×108¹/₈. Друк. арк. 4. (Др. арк. 65.000 зн.) Вуч.-выд. арк. 7. Тыраж 20.000 экз. Заказ № 249.

Цана 2 руб.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

# РАДЗІМА МАЯ ДАРАГАЯ

Словы А. БАЧЫЛЫ

Музыка В. АЛОЎНІКАВА

lento e molto cantabile

Радзіма мая дарагая,
Ты ў шчасці жаданым жыві,
Я сэрцам табе прысягаю
У шчырай сыноўняй любві.

На рэках шырокіх і нівах,
Заводах, будоўлях, — наўсцяж
Працуе народ наш руплівы
І край узвышаецца наш.

Навокал жыццё расцвітае —
І песня ўзлятае сама:
Мне лепей ад роднага краю
Нічога на свеце няма.

Чужое зямлі нам не трэба —
Пачуцці ў нас сёння адны:
Мы хочам, каб мірнае неба
Не знала пажараў вайны.

Мы дружбы народам жадаем
І шчырай братэрскай любві.
Радзіма мая дарагая,
Красуйся і ў шчасці жыві!

